ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 28 27 ліпеня 1995 г.

(2430) Выдаецца з 1955 г. Цана 800 рублёў.

## АДКРЫТЫ ПОМНІК МАКСІМУ ГАРЭЦКАМУ




12 ліпеня, у дзень святых Пятра і Паўла, у Мінску адбылася няшумная, але значная падзея: урэшце быў адкрыты помнік Максіму Гарэцкаму. Урэшце, бо да ўрачыстага моманту адкрыцця ішлі доўга -- два з паловай гады: усё нешта замінала, перашкаджала паскорыць працэс.

Помнік невялікі, аўтары -- мастак Мікалай Рыжанкоў (гэта, дарэчы, яго апошняя праца) і архітэктар Ю. Казакоў. Ён змясціўся ў глыбокай нішы аднаго са старых дамоў на рагу вуліцы Рэвалюцыйнай і плошчы Свабоды, дзе калісьці быў Інстытут беларускай культуры. Пляменнік пісьменніка, вядомы беларускі вучоны Радзім Гарэцкі ў сваім уступным слове згадаў, што і жыў Максім Гарэцкі непадалёку, кожны дзень перасякаў ён плошчу Свабоды, каб трапіць на работу якраз сюды, дзе цяпер адкрыты яму помнік.

Сярод выступоўцаў быў паэт Рыгор Барадулін. Ён сказаў прыкладна так: пяць год таму Васіль Быкаў шкадаваў, што Мінску вельмі не хапае помніка Максіму Гарэцкаму. І вось, зазначыў Барадулін, словы апостала нашай нацыі былі пачуты Госпадам Богам. Дарэчы, сам Васіль Быкаў прысутнічаў на ўрачыстасці і прынёс кветкі Гарэцкаму.

На адкрыццё прыйшлі і іншыя славутыя беларускія пісьменнікі -- Ніл Гілевіч, Янка Брыль, Іван Навуменка, Васіль Зуёнак... Яны дастойна прадоўжылі традыцыі М. Гарэцкага. А хто ж будзе за імі? Каму яны перададуць эстафету служэння нацыянальнай культуры і літаратуры? Магчыма, я памыляюся, але, здаецца, асоб такога ўзроўню і маштабу сярод маладых пакуль не бачна. Будзем спадзявацца, што ўсё яшчэ наперадзе, бо вельмі патрэбны Беларусі сёння такія людзі. Менавіта сёння, калі справа беларушчыны, нацыянальнага адраджэння знаходзіцца ў досыць сумным становішчы.

**Галіна УЛІЦЁНАК.**

НА ЗДЫМКУ: помнік Максіму ГАРЭЦКАМУ ў Мінску.

Фота Віктара СТАВЕРА.

## ЗНАЁМЦЕСЯ: "БЕЛІНТУРЫСТ"

# ЦІ РАСПРАЦУЕМ МЫ "ЗАЛАТУЮ ЖЫЛУ"?

*Здаецца, турыстычную кампанію "Белінтурыст" у Беларусі ведаюць усе. Уладзімір МАКОЎСКІ распачаў сваю працу (тады ў АТ "Інтурыст") 18 гадоў таму звычайным інструктарам і з цягам часу падняўся па службовай лесвіцы да пасады камерцыйнага дырэктара. У гутарцы з нашым карэспандэнтам распавядае ён пра рэфармаванне кампаніі, яе дзейнасць у апошнія гады і сучасныя цяжкасці.*

-- **Спадар Макоўскі, акцыянернае таварыства "Белінтурыст" было ўтворана ў 1992 годзе на месцы былога ўсесаюзнага "Інтурыста". Якія істотныя змены адбыліся ў інфраструктуры вашага прадпрыемства і што гэта вам дало?**

-- Доўгія гады амаль адзіным манапалістам у галіне замежнага турызму было ўсесаюзнае акцыянернае таварыства "Інтурыст". Трэба адзначыць, што акцыянерным яно было толькі па назве, каб лягчэй было адшукваць замежных партнёраў і выходзіць на заходні рынак. На самай справе гэта было на ўсе сто працэнтаў дзяржаўнае прадпрыемства. На той час у Беларусі яго прадстаўляў, так бы мовіць, філіял у выглядзе мінскага аб'яднання, куды ўваходзілі гасцініцы "Юбілейная" і "Планета", матэль-кэмпінг і камерцыйны цэнтр.

(Заканчэнне на 3-й стар.)

**Некалькі гадоў назад Сяргей Панізьнік на старонках "Голасу Радзімы" "адкрыў" для людзей імя цікавага самабытнага беларускага пісьменніка Віктара Вальтара. Газета друкавала яго раман "Роджаныя пад Сатурнам". Высілкамі таго ж С. Панізьніка раман быў падрыхтаваны да друку і меўся быць выдадзены Згуртаваннем беларусаў свету "Бацькаўшчына" і выдавецтвам "Юнацтва". Аднак, калі кніга была ўжо амаль гатовая, высветлілася, што тыраж яе такі нязначны, што выпускаць твор няма магчымасці. У бібліятэках няма грошай на набыццё новых кніг, адпаведныя арганізацыі, што павінны займацца прапагандай і распаўсюджваннем кніг, не зацікаўлены ў творах на беларускай мове. І таму мы звяртаемся да магчымых чытачоў, каб тыя, хто хацеў бы набыць яе, пісалі на адрас "Юнацтва" (220600, РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ, МІНСК, ПР. МАШЭРАВА, 11).**

**Такая заяўка дапаможа набраць неабходны тыраж, і цікавая кніга пабачыць свет.**

*Сёння мы друкуем уступны артыкул Л. Савік да кнігі В. Вальтара "Роджаныя пад Сатурнам".*




# ВІКТАР ВАЛЬТАР І ЯГО РАМАН "РОДЖАНЫЯ ПАД САТУРНАМ"

Беларускаму народу вяртаюцца сёння многія мастацкія скарбы, забароненыя або незаслужана забытыя імёны дзякуючы нястомным пошукам, даследаванням энтузіястаў, каму неабыякавы лёс Бацькаўшчыны, нацыянальнага Адраджэння. Больш за 60 гадоў прайшло з моманту напісання рамана "Роджаныя пад Сатурнам" таленавітым беларускім пісьменнікам Віктарам Вальтарам, але знаёмства сучаснага чытача з цікавым творам адбылося толькі ў 1992 годзе праз газету "Голас Радзімы", якая апошнім часам шмат робіць для адкрыцця спадчыны славутых беларусаў.

І сапраўды, Віктар Вальтар надзіва прадбачліва і з глыбокай праніклівасцю праз характар і лёс галоўнага героя, студэнта Тугоўскага, змог паказаць ментальнасць беларуса, задумацца над пытаннем: ці не таму мы такі шматпакутны народ, што роджаныя пад Сатурнам? Па філасофіі дзейных асоб рамана аказваецца, што жыццё чалавека залежыць ад таго, пад якой планетай ён нарадзіўся. "Нарадзіўся ён пад Сонцам -- значыць, жыццё яго будзе светлым, радасным, шчаслівым; нарадзіўся ён пад Сатурнам -- жыццё яго пойдзе па крывой арбіце, будзе нясталым, поўным непрыемнасці і напоўніць чалавека песімізмам і меланхоліяй..." Горка ўсведамляць, што герой рамана і сам аўтар, жыццёвыя сцежкі, думкі, перажыванні якіх шмат у чым супадаюць, відаць, нарадзіліся ўсё ж пад нешчаслівай зоркай, бо кароткатрагічным быў іх лёс, несправўджанымі аказаліся мары і спадзяванні.

Віктар Бенядзіктавіч Вальтар... Імя яго сёння па праву ўпісваецца ў слаўную плеяду таленавітых пісьменнікаў 20–30-х гадоў, якія ўваходзілі ў беларускую літаратуру сваімі першымі аповесцямі, раманамі, п'есамі, вершамі, паэмамі: М. Гарэцкі, Ц. Гартны, У. Галубок, М. Зарэцкі, П. Галавач, Я. Нёманскі, С. Баранавых, Б. Мікуліч, Л. Калюга, Т. Кляшторны, Я. Пушча, У. Хадыка, В. Шашалевіч, А. Мрый і многія іншыя, творчасці якіх не суджана было ўпоўную меру раскветнець ужо па іншых прычынах. Можна не сумнявацца, што і В. Вальтара спасціг бы лёс рэпрэсіраваных пісьменнікаў, бо па нараджэнні, выхаванні, адданасці беларускай справе і тым больш, што ён вучыўся за мяжой, пільныя савецкія чэкісты залічылі б маладога пісьменніка ў самыя актыўныя "нацдэмы".

Пачынаў Віктар Вальтар з вершаў, і гэтыя першыя спробы пяра, вядома ж, адлюстроўвалі яго юнацкія пачуцці, успаміны дзяцінства, вучобу ў пачатковай школе, Дзвінскім рэальным вучылішчы. Сям'я перажыла бежанства, у час першай сусветнай вайны давялося выехаць у Харкаў. У 1921 годзе вярнуліся ў Дзвінск (цяпер Даўгаўпілс), дзе В. Вальтар закончыў рускую гімназію і з 1922 года стаў студэнтам каморніцкага факультэта Чэшскага вышэйшага тэхнікума ў Празе. Аднак з-за цяжкай хваробы вучобу скончыць не змог і ў 1926 годзе вярнуўся ў Латвію.

(Працяг на 4-й стар.).

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*ВІЗІТЫ*



Завяршыўся афіцыйны візіт Прэзідэнта Украіны Леаніда Кучмы ў Беларусь. За два дні была зроблена вялікая работа, якая прывяла да падпісання шэрагу дакументаў. Асноўным сярод іх было пагадненне аб дружбе, добрасуседстве і супрацоўніцтве.

Бакі знайшлі паразуменне па праблемах беларуска-ўкраінскіх зносін. Не было рознагалоссяў і ў пытаннях ліквідацыі наступстваў чарнобыльскай бяды. Прэзідэнты абедзвюх краін мелі поўную згоду па пытаннях дзяржаўных межаў, уласнасці кожнай з краін на чужой тэрыторыі, культурных каштоўнасцяў, забеспячэння беларускіх інвалідаў украінскімі легкавымі аўтамабілямі, пагашэння даўгоў, праблемных адносін да НАТО і Садружнасці Незалежных Дзяржаў.

Не абміналіся ў рабочых сустрэчах Л. Кучмы і А. Лукашэнкі і ўзаемаадносіны Украіны і Беларусі з Расіяй. "Калі Расія лічыць сябе вялікай краінай, -- зазначыў Леанід Кучма, -- няхай яна сябе такой і паказвае. Такой мы яе і будзем успрымаць. Але без нашых краін вялікая суседка не выжыве".

НА ЗДЫМКУ: хлеб-соль Прэзідэнту Украіны.



Адбыўся рабочы візіт прэм'ер-міністра Літвы А. Шляжавічуса на Беларусь. Яго вынікам з'явілася падпісанне шэрагу дагавораў, у асноўным эканамічнага характару. У прыватнасці, быў падпісаны важны дагавор аб ліквідацыі двайнога падаткаабкладання, а таксама дагавор аб прахадных пунктах на граніцы. Прэм'ер-міністры Беларусі і Літвы з задавальненнем канстатавалі, што эканамічныя адносіны паміж нашымі краінамі дынамічна развіваюцца.

НА ЗДЫМКУ: у час падпісання дакументаў.

*УРАДЖАЙ*

## ВЫСПЕЛА ЗБАЖЫНА, АЛЕ КАМБАЙНАЎ НА ПАЛЕТКАХ МАЛА

На 33 тысячах гектараў выспеў хлеб у Пінскім раёне. Кожны гектар можа даць не менш як 30 цэнтнераў.

Нягледзячы на сонечнае надвор'е, уборка вядзецца марудна, камбайнаў на палетках мала. Не хапае паліва, запасных частак, няма грошай, каб усё гэта купіць.

Крыкам адчаю можна назваць накіраваную з раёна тэлеграму міністру сельскай гаспадаркі і харчавання В. Лявонаву з настойлівай просьбай аб дапамозе. І гэта просьба абавязкова павінна быць пачута, бо ў аналагічнай сітуацыі знаходзяцца Ганцавіцкі, Іванаўскі, Столінскі і іншыя раёны. Тэхніка ўсюды зношаная, яна часта выходзіць са строю, прастойвае.

Сёння такі момант, калі земляробы, нават з неймаверным напружаннем сіл, без дапамогі рэсурсаў ураджай не ўбяруць.

*ВЫНІКІ АПЫТАННЯ*

## ЧАГО АПАСАЮЦЦА БЕЛАРУСЫ?

Вельмі паказальнымі аказаліся вынікі апытання дарослага насельніцтва Беларусі, праведзенага нядаўна па агульнанацыянальнай рэпрэзентатыўнай выбарцы (апытана 1 414 чалавек). Яго арганізаваў Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў пры садзеянні Міжнароднага цэнтра прыватнага прадпрымальніцтва (ЗША). На пытанне "Чаго Вы апасаецеся ў бліжэйшай будучыні?" 64,3 працэнта рэспандэнтаў адказалі: магчымасці недаступнасці прадуктаў харчавання і тавараў першай неабходнасці з-за росту цэн.

Насельніцтва рэспублікі таксама занепакоена магчымасцю экалагічнай катастрофы -- 53,4 працэнта, непамернага росту цэн на камунальныя паслугі -- 47 працэнтаў, пагрозы грамадзянскай вайны -- 47 працэнтаў. 41,1 працэнта апытаных апасаюцца стаць ахвярай узрослай злачыннасці, 25,3 -- магчымасці ўсталявання дыктатуры, 23,7 -- вайны з іншымі краінамі, 20,1 -- міжнацыянальных канфліктаў на Беларусі, 17,4 -- страты грашовых зберажэнняў, 11,3 -- таго, што Захад купіць амаль усю ўласнасць на Беларусі, 10,8 -- што гэта зробіць Расія, 8 працэнтаў апасаюцца магчымасці міжнароднай ізаляцыі Беларусі.

*РАСПРАДАЖА*

## СТАРАЯ ПЛЯЦОЎКА ПОЙДЗЕ "З МАЛАТКА"

Частка старой вытворчай пляцоўкі гродзенскага завода "Радыёпрыбор" прададзена "з малатка". Пакупнік трымаецца ў строгім сакрэце. Па неправераных даных, гэта адзін з камерцыйных банкаў Гродна. Выручка ад здзелкі пойдзе на пагашэнне даўгоў завода. Працоўны калектыў падтрымаў гэты крок адміністрацыі.

Продаж вытворчых плошчаў -- ужо не першая рэарганізацыя на заводзе. Да лістапада абсталяванне асноўных цэхаў будзе перавезена на тэрыторыю вытворчага аб'яднання "Волна". Тых, хто ад надыходзячых перамен страціць рабочае месца, адміністрацыя абяцае наняць на работу па кантракту.

*СВЕДЧЫЦЬ СТАТЫСТЫКА*

## ЕСЦІ МЫ СТАЛІ МЕНШ

Як сведчыць статыстыка, у 1994--1995 гадах знізіўся ўзровень спажывання асобных прадуктаў харчавання ў параўнанні з 1990 годам.

Так, мяса і мясапрадуктаў у 1990 годзе адзін сярэднестатыстычны беларус за месяц ужываў 7,1 кілаграма, у 1994 -- 5,1 кілаграма, у І квартале бягучага года -- 4,7 кілаграма. Тое ж тычыцца агародніны. Калі ў 1990 годзе нам патрабавалася 6,1 кілаграма на душу, то ў мінулым годзе -- ужо толькі 5. Знізіўся ўзровень спажывання садавіны. У 1990 годзе кожны беларус у сярэднім ужываў 3,8 кілаграма "жывых" вітамінаў, у 1994 -- 3,1, сёлета ў І квартале -- 2,9 кілаграма. Малака мы сталі піць значна менш. У 1990 годзе за месяц ужывалі 36 кілаграмаў, у мінулым годзе -- на 4 кілаграмы менш, а ў І квартале гэтага года -- усяго толькі 23 кілаграмы. Асноўным прадуктам харчавання застаецца хлеб. Зніжэнне ўжывання яго сярэднестатыстычным жыхаром Беларусі нязначнае: 8,6 кілаграма ў месяц у 1990 годзе, 8,2 -- у 1994-м, 8,5 кілаграма -- у І квартале 1995 года.

*ДЫПЛОМЫ ПЕРАМОЖЦАМ*

## НАЗВАНЫ ЛЕПШЫЯ КНІГІ МІНУЛАГА ГОДА

У Міністэрстве культуры і друку Рэспублікі Беларусь адбылося ўручэнне дыпломаў пераможцам конкурсу "Мастацтва кнігі-94", у якім прынялі ўдзел 10 дзяржаўных і 25 недзяржаўных выдавецтваў. З 155 прадстаўленых на конкурс дыпломаў было адзначана 33 выданні, выпушчаныя ў мінулым годзе.

Па выніках конкурсу лепшымі прызнаны дзяржаўныя выдавецтвы "Беларусь", "Беларуская энцыклапедыя", "Мастацкая літаратура", "Народная асвета", "Юнацтва".

Па колькасці набраных балаў адзначаны наступныя выданні: кніга "Найвышэйшая песня Саламонава" і мініяцюрны зборнік вершаў М. Багдановіча "Вянок" выдавецтва "Мастацкая літаратура", "Чудесная избушка" братоў Грым фірмы "Кавалер", альбом "Веткаўскі музей народнай творчасці" і фотаальбом "Беларусь" выдавецтва "Беларусь". Вышэйшай узнагароды конкурсу -- дыпломам імя Ф. Скарыны -- ніхто ўзнагароджаны не быў.

*СПАДЧЫНА*

## ГІСТАРЫЧНАЯ БІТВА

Адбылося свята, прысвечанае 585-й гадавіне Грунвальдскай бітвы. У Мінску на беразе Свіслачы прайшло яркае тэатралізаванае прадстаўленне з рыцарскімі паядынкамі, парадам воінаў, апранутых у сярэднявяковыя даспехі, прыгожымі дамамі.

У Гродне святочныя мерапрыемствы пачаліся з богаслужэнняў у каталіцкіх і праваслаўных храмах горада. Адначасова ў мясцовым тэатры лялек прайшла навуковая канферэнцыя, прысвечаная гістарычнай бітве. Завяршылася святкаванне шэсцем калоны пад сцягамі краін-пераможцаў і адкрыццём помніка князю Вітаўту Вялікаму на плошчы паміж старым і новым замкамі. У святкаванні прымалі ўдзел калектывы мастацкай самадзейнасці Літвы, Польшчы, а таксама актывісты брэсцкага і гродзенскага аддзяленняў "Рускага таварыства".

*З ЖЫЦЦЯ СУАЙЧЫННІКАЎ*

## "БЕЛАРУСКІ ДОМ" НА УКРАІНЕ

Украінскія беларусы актывізавалі стварэнне культурных таварыстваў. Яны ўжо з'явіліся ў Крыме, Чарнаўцах, Запарожжы, Кіеве, Палтаве, Львове.

Зусім нядаўна новае нацыянальна-культурнае аб'яднанне "Беларускі дом" узнікла ў Херсоне. У горадзе пражывае каля 4,5 тысячы нашых землякоў, а па вобласці іх налічваецца больш за 12 тысяч. У бліжэйшай будучыні "Беларускі дом" плануе аб'яднаць беларусаў усяго поўдня Украіны. Гэта будзе садзейнічаць больш паспяховаму вырашэнню культурна-асветных задач таварыства, умацаванню сувязей дыяспары.

*АБІТУРЫЕНТ-95*



У вышэйшых навучальных установах нашай рэспублікі праходзяць уступныя экзамены. У першы дзень з гэтай падзеяй абітурыентаў павіншаваў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка і аб'явіў тэмы сачыненняў.

НА ЗДЫМКУ: у час аб'яўлення тэм сачыненняў у Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце.

*БЕЛАРУСЫ З-ЗА АКІЯНА НА РАДЗІМЕ*

## НАДЗЕЯ НА МОЛАДЗЬ

На пачатку ліпеня ў Мінск прыляцела вялікая група беларусаў з Амерыкі. Сярод іх такія вядомыя асобы беларускага замежжа, як Янка Запруднік, Міхась Сенька, Юрка Навумчык, Надзея Кудасава... Трэцяе лета запар пасля атрымання Беларуссю незалежнасці наведваюць нашы суайчыннікі радзіму, каб пабачыцца са сваякамі, сустрэцца з прадстаўнікамі беларускіх арганізацый і суполак, наогул на свае вочы пабачыць і адчуць тутэйшае жыццё-быццё. "Спачатку ў падарожжа збіралася 48 чалавек, -- расказвае адзін з ініцыятараў паездкі Юрка Навумчык. -- На жаль, пасля выніказ рэферэндуму, а таксама з-за нестабільнасці палітычнага становішча ў краіне 14 з іх не адважыліся ехаць, і таму ўсіх нас прыехала 34 чалавекі".

Юрка Навумчык нарадзіўся ў Клецку. У 1944 годзе ён разам з сям'ёй шасцігадовым хлопчыкам пакінуў Беларусь і апынуўся ў замежжы. Другія гады жыве і працуе ў Саўт-Рыверы (штат Нью-Джэрсі), дзе існуе моцная беларуская суполка. Там жа выдаецца гадавы часопіс "Беларуская думка", у рэдакцыі якога Юрка працуе разам з Міхасём Кавылём, Віталем Цярпіцкім, Міхасём Палюховічам, Міхасём Сенькам і іншымі. Ён кіруе таксама невялічкай друкарняй.

У Мінску сустракаў амерыканскіх беларусаў кіраўнік выдавецтва "Бацькаўшчына" спадар Лецка, які наладзіў для іх чатырохдзённае падарожжа па гарадах Беларусі. Яны наведалі Слуцк, Столін, Нясвіж, Навагрудак і некалькі іншых старажытных мясцін.

"Мы не чакалі такога прыёму, -- працягвае свой расказ Юрка Навумчык. -- Нас сустракалі з караваем, частавалі беларускімі стравамі, гучалі на роднай мове песні, вакол цешылі вока беларускія краявіды. Людзі плакалі, кранутыя такой гасціннасцю і шчырасцю беларусаў".

Як заўсёды, прыехалі нашы суайчыннікі дамоў не з пустымі рукамі. Гэты раз яны прывезлі лекаў на 250 тысяч амерыканскіх долараў. На працягу ўжо некалькіх гадоў Беларускі цэнтр у Саўт-Рыверы супрацоўнічае з амерыканскай дабрачыннай арганізацыяй Сіту Норе ў Мінску, якая дастаўляе груз у Беларусь і тут яго размяркоўвае.

"Рэформы на Беларусі ідуць не так шпарка, як хацелася б, але відавочна, што працэс ідзе і змены пэўныя адбываюцца, -- сказаў напрыканцы спадар Навумчык. -- У гэты прыезд мне вельмі спадабалася моладзь. Гэта ўжо зусім іншыя людзі. Яны імкнуцца размаўляць на роднай мове, ведаюць, што Беларусь -- старажытная дзяржава, хочуць ведаць свае карані, сваю гісторыю. Іх светапогляд ужо зусім іншы, чым у старэйшага пакалення, а таму ўся надзея на іх".

Т. БАНДАРЭНКА.

# ЦІ РАСПРАЦУЕМ МЫ "ЗАЛАТУЮ ЖЫЛУ"?

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Трэба адзначыць, што гэта была даволі магутная арганізацыя з вялікім прыбыткам у СКВ у бюджэт дзяржавы. З увядзеннем двухзвеннай сістэмы кіравання аб'яднанне развалілася: гасцініцы атрымалі самастойнасць, а камерцыйны цэнтр ператварыўся ў Беларускае ўпраўленне па замежнаму турызму. У 1992 годзе, калі пачаліся рыначныя эканамічныя пераўтварэнні, было прынята рашэнне на месцы яго ўтварыць акцыянернае таварыства "Белінтурыст", 60 працэнтаў акцый якога цяпер належаць камерцыйным структурам, а астатнія 40 працэнтаў усё яшчэ ўтрымлівае дзяржава. Тым не менш, цяпер мы маем магчымасць развівацца самастойна. Напрыклад, 35 працэнтаў прыбытку мы ўкладваем у развіццё кампаніі: набываем транспарт, камп'ютэры, рэарганізуем офісы. Нічога не зробіш, мы мусім прытрымлівацца сусветнага ўзроўню. Робім усё ад нас залежнае і шмат чаго ўжо дасягнулі.

— **Вы адна з нямногіх фірмаў, якая не толькі адпраўляе беларускіх грамадзян за мяжу, але і наладжвае прыём замежных грамадзян тут у Беларусі.**

-- Так, акрамя наладжвання адпачынку беларусаў за мяжой (што складае ўсяго 15 працэнтаў нашай дзейнасці), галоўны -- і прыярытэтны наш накірунак -- наладжванне прыёму іншаземцаў. Больш таго, мы не проста прымаем турыстаў, але і бізнесменаў, ладзім таксама міжнародныя сімпозіумы, канферэнцыі, з'езды. Зусім нядаўна адбылася сустрэча евангелістаў, у якой бралі ўдзел каля 200 чалавек з розных краін свету. Усіх іх трэба было размясціць у гасцініцах, накарміць, забяспечыць культурнай праграмай і г.д.

-- **А як вас знаходзяць замежныя партнёры?**

-- У апошнія гады мы ўдзельнічаем ва ўсіх буйных міжнародных турыстычных кірмашах. Гэта вельмі дорага, але мае сваю выгаду: мы набылі вялікую колькасць партнёраў у розных краінах свету. Тым самым мы заяўляем аб Беларусі як аб незалежнай дзяржаве. Сёння, каб прыехаць у Мінск, ужо не звяртаюцца ў Маскву, а адразу выходзяць на нас. Мы з'яўляемся асацыіраваным членам Сусветнай турыстычнай арганізацыі, членам Асацыяцыі Еўразія (якую, дарэчы, нядаўна ўзначаліў прэзідэнт "Белінтурыста" спадар Няхай), мы ўваходзім у вядомыя міжнародныя каталогі турфірм Лонданскай, Берлінскай, Мадрыдскай біржаў. Карацей кажучы, у свеце нас ужо ведаюць, і гэта цешыць.

-- **Усё, пра што вы кажаце, як я разумею, тычыцца ў асноўным калектыўнага турызму. Скажыце, калі ласка, як справы з індывідуальным? Наколькі мне вядома, без запросін нельга атрымаць візу, а без візы нельга прыехаць. А калі няма каму запрашаць, якое тут выйсце?..**

-- Мы супрацоўнічаем з нашым Міністэрствам замежных спраў. Дарэчы, 10 працэнтаў ад усіх прыязджаючых -- гэта якраз асобныя сем'і. Каб яны прыехалі ў Беларусь, мы робім для іх візавыя падтрымкі. Відавочна, яны павінны купіць у нас нейкі пакунак паслуг. Але гэта толькі на іх карысць, бо пазбаўляе іх вялікіх клопатаў, з якімі яны тут могуць сутыкнуцца.

— **Часам ад замежнікаў даводзіцца чуць скаргі на наш сервіс, на "Белінтурыст", у прыватнасці, таксама.**

— Вы ж разумееце, што ўсё адразу змяніцца не можа. Так, прэтэнзіі ёсць. Але ёсць і зрухі і ў гэтым накірунку ў лепшы бок. Сёння мы адказваем не толькі маральна; але і фінансава за сваю працу. Наш прынцып -- кліент не павінен пакутаваць. Ну а тыя супрацоўнікі, якія зрабілі памылкі ў сваёй працы або выказалі нейкую непавагу да кліента, нясуць за гэта адказнасць і не толькі адміністрацыйную. У мінулым годзе 8 нашых кліентаў атрымалі кампенсацыю за тыя нязручнасці, якія іх напаткалі па віне нашых супрацоўнікаў. Мяркую, што гэта пройдзе, калі будзе створана адпаведная заканадаўчая база. Да таго ж павінна быць пэўная канкурэнцыя, калі за кліента будуць змагацца. Гэта можна назіраць ужо і сёння сярод фірм, якія ладзяць адпачынак нашых суайчыннікаў за мяжой.

— **Ва ўсім свеце турызм-бізнес вельмі прыбытковы. За яго кошт існуе шмат дзяржаў. Ці адчуваеце вы падтрымку з боку беларускай дзяржавы?**

-- Сёння беларускаму ўраду не да замежнага турызму. Пакуль што няма сэнсу падымаць праблему да дзяржаўнага ўзроўню, але гэта толькі пакуль.

Вядома, калі б сур'ёзна заняцца фармаваннем новай інфраструктуры "Белінтурыста", дык замест сённяшніх 2--5 мільёнаў долараў у год (заўважце, што гэта таксама нямала), мы маглі б зарабляць, магчыма, у разоў дзесяць болей. Але гэта будзе ў тым выпадку, калі Беларусь пачне набліжацца да рынку больш шпарка. Трэба надаць замежнаму турызму значнасць дзяржаўнай праграмы.

-- **Наколькі мне вядома, нашы суседзі ў краінах Балтыі знайшлі іншае выйсце і на дзяржаву не вельмі спадзяюцца. У галіне турызму там набывае ўсё большую вагу ўласнік: пачынаючы ад бензакалонак і пунктаў харчавання на магістралях, да турыстычных агенцтваў і кэмпінгаў.**

-- У Беларусі ёсць фірмы, якія жадалі б таксама пабудаваць новыя пункты комплекснага сервісу на нашых дарогах, але нічога ў іх пакуль не атрымалася. Абсталяванне, якое яны закупілі, недзе ржавее на звалцы. Чаму, вы запытаеце. Каб атрымаць дазвол на такую дзейнасць, трэба прайсці шэраг кабінетаў. У вас проста не хопіць грошай на такое "ўзгадненне" пытання. Менавіта таму я і кажу пра дзяржаўную праграму, бо ніводная ініцыятыва пакуль не праходзіць, а замежнікі, якім вельмі падабаюцца і Нарач, і Браслаўскія азёры, укладаць у іх свае інвестыцыі не спяшаюцца: не тыя эканамічныя ўмовы. Ці вось яшчэ такі прыклад раздзяржаўлення маёмасці. Мы мелі кэмпінг на Брэсцкай трасе. Прасілі, каб дзяржава аддала яго нам у арэнду, але Дзяржмаёмасць палічыла лепшым прадаць яго "Беларускай будаўнічай кампаніі". Мы спадзяваліся, што новы гаспадар яго рэарганізуе. Прайшоў год, але нічога не змянілася, і кэмпінг стаіць пусты. У той самы час мы атрымліваем заяўкі ад аўтатурыстаў, але размясціць іх няма дзе. Калі справа раздзяржаўлення пойдзе такім шляхам, ад "Белінтурыста" можа нічога не застацца.

-- **Здаецца, гасцініца "Планета" таксама акцыяніравалася і адасобілася?**

-- Так, але наогул гэта добра. Бо з яе адміністрацыяй у нас пакуль паразуменне і наладжана супрацоўніцтва. Іншая справа, каб яна не змяніла свайго стаўлення да замежнага турызму, бо замежны турызм у першую чаргу -- гэта скідкі. Калі аднамесны нумар, напрыклад, у "Юбілейнай" ці "Планеце" каштуе 53 долары —мы яго прадаем (для аб'ёмнага турызму) за 40 долараў, уключаючы харчаванне і экскурсіі. Але гэта менавіта ў памянёных гатэлях. У іншых, напрыклад, "Беларусі", я не магу дамагчыся нават 10 працэнтаў скідкі. Іх турызм не цікавіць.

-- **Дык што прапануе сёння "Белінтурыст" замежным кліентам?**

-- Акрамя таго, што ўжо было ўзгадана,а таксама акрамя звычайных экскурсій па гораду і тураў па Беларусі, мы арганізуем спецыяльныя прафесійныя і бізнестуры. Мы распрацавалі каля 40 праграм на ўсе ўзросты і густы. Аматары балета, прыроды, спорту, палявання і г.д. -- кожны можа выбраць сабе тур, які яго цікавіць. Арганізуем падарожжы ў краіны Балтыі, у гарады былога Саюза. Мы робім усё ад нас залежнае, каб прытрымлівацца пэўнага ўзроўню і каб замежны турызм у Беларусі развіваўся. На жаль, высілкаў адной кампаніі недастаткова. Калі дзяржава не перагледзіць свае падыходы да замежнага турызму як крыніцы істотнага прыбытку ў бюджэт, наша становішча можа толькі пагоршыцца. Турысты, якія наведваюць Беларусь, бачаць, у якім заняпадзе нашы помнікі культуры і архітэктуры. А калі да гэтага яшчэ дадаць і "ўзровень" нашага сервісу, дык і, наогул, Беларусь можа набыць рэпутацыю не самага лепшага для турызму месца. Але будзем спадзявацца, што такога не адбудзецца. У мінулым годзе праз "Белінтурыст" Беларусь наведала каля 20 тысяч замежных турыстаў. У сённяшніх умовах -- гэта ўсё ж шмат.

Гутарыла Таіса БАНДАРЭНКА.

ВАЙНА: ШТО НАМ РЫХТАВАЛІ НАЦЫСТЫ

# ВЕДАЦЬ І ПОМНІЦЬ

У начны час па правадах пускаўся электрычны ток. Па лініі дротавых загараджэнняў і па вуглах гітлераўцы ўзвялі вартавыя вышкі з пражэктарнымі ўстаноўкамі. Акрамя таго, уздоўж агароджы расстаўляліся вартавыя пасты. Ваеннапалонныя ўтрымліваліся ў дашчаных бараках, канюшнях, паўразбураных хлявах, а часта (асабліва восенню і зімой 1941/42 года) увогуле пад адкрытым небам.

Людзей размяшчалі ў бараках без папярэдняй санітарнай апрацоўкі. Агульнага мыцця ваеннапалонных не праводзілася, мыліся яны па сваёй ініцыятыве ў халоднай, бруднай вадзе. Бялізна не мылася і не мянялася. Яе таксама мылі самі ваеннапалонныя. Яны не мелі такіх неабходных прадметаў, як лыжкі і кацялкі. Для атрымання вадкай поліўкі яны прыстасоўвалі ржавыя кансервавыя бляшанкі, чарапкі бітага посуду і г.д.

Нацысцкія забойцы, ажыццяўляючы злачынную палітыку генацыду, са страшнай сілай абрушылі крывавы тэрор на асоб яўрэйскай нацыянальнасці. З першых дзён фашысцкай акупацыі гітлераўцы стварылі ва ўсіх гарадах і населеных пунктах, дзе жыло яўрэйскае насельніцтва, спецыяльныя лагеры -- гета. У Мінску гета ахоплівала каля 40 вуліц і завулкаў у паўночна-заходняй частцы горада. У Гомелі акупанты стварылі 4 гета, у Жлобіне -- 2. Усяго на часова акупіраванай тэрыторыі Беларусі дзейнічала не менш 70 лагераў гета.

Тэрыторыя, адведзеная для гета, апутвалася ў некалькі радоў калючым дротам і ахоўвалася салдатамі і паліцыяй. Усе вязні ў абавязковым парадку насілі на грудзях і спіне ганебныя апазнавальныя жоўтыя знакі ў выглядзе шасціканцовай зоркі. Ім забараняліся ўсякія зносіны з грамадзянамі неяўрэйскай нацыянальнасці. Людзі ўтрымліваліся ў невыносных умовах. Яны зусім не атрымлівалі ежы, харчуючыся тымі запасамі, якія прыарышце змаглі захапіць з сабой. У зняволеных гітлераўцы адбіралі адзенне і абутак, каштоўныя рэчы, грошы, гадзіннікі, дарагі посуд, розныя ўпрыгажэнні і г.д. За зносіны з мясцовым насельніцтвам, куплю прадуктаў харчавання ці перадачу іх у гета -- пакаранне смерцю.

Вязняў гета выкарыстоўвалі на самых цяжкіх і шкодных для здароўя работах. Ствараючы такія лагеры, нацысты не толькі адрадзілі варварскія традыцыі сярэднявечных вылюдкаў, але і стараліся ўдасканаліць вытанчаныя метады катаванняў. Вязні гета падвяргаліся сістэматычным катаванням, насіллю і прыніжэнню. Пасля пакутлівых здзекаў гітлераўцы расстрэльвалі іх, а каштоўную маёмасць забіралі сабе.

У прыватнасці, начальнік паліцыі бяспекі і СД оберштурмбанфюрэр Штраух у красавіку 1943 года на адной з сакрэтных нарад заявіў, што на тэрыторыі генеральнай акругі "Беларусь", "па прыблізных падліках, з 150 тысяч яўрэяў 130 тысяч ужо ліквідавана". Многія з іх скончылі свой жыццёвы шлях на паўднёва-ўсходняй ускраіне Мінска, у непасрэднай блізкасці ад цяперашняга мікрараёна Шабаны і вёскі Малы Трасцянец, а таксама за некалькі кіламетраў ад вёскі Вялікі Трасцянец, дзе знаходзілася ў вайну тэрыторыя самага буйнога ў нашай краіне канцлагера і месца захавання ахвяр фашызму.

Лагер смерці Трасцянец быў таксама трэцім па колькасці знішчаных у ім ахвяр сярод усіх фашысцкіх "Штатлагаў"... У ім загінула 206 500 вязняў. Пасля вайны былі ўзведзены тры трасцянецкія помнікі. Адзін -- па левы бок Магілёўскай шашы, калі выязджаць з Мінска, на ўскраіне вёскі Вялікі Трасцянец. Другі -- на месцы крэмацыйных ям, у якіх спальвалі расстраляных тут жа ці людзей, загубленых у машынах-"душагубках" па дарозе сюды. І трэці -- на месцы былога калгаснага хлява, у якім за чатыры дні да вызвалення Мінска фашысцкія вылюдкі і іх прыхвасні ператварылі ў попел больш за шэсць тысяч мірных людзей.

Але ў той жа час на забытых месцах пахавання 150 тысяч ахвяр ва ўрочышчы Благаўшчына, не ўстаноўлена пакуль ні абеліска, ні нават сціплага каменя-прыдарожнага з надпісам, што тут, маўляў, спачывае такая колькасць людзей, звезеных сюды не толькі з гарадоў і вёсак нашай рэспублікі і былога Савецкага Саюза, а і з усёй Еўропы.

Зброяй масавага знішчэння мірнага насельніцтва служылі лагеры, створаныя гітлераўцамі ў прыфрантавой паласе. У іх разам са знясіленымі і непрацаздольнымі людзьмі яны размяшчалі інфекцыйных хворых, спецыяльна вывезеных з розных раёнаў, з тым каб пасля свайго адступлення распаўсюдзіць хваробы сярод насельніцтва і воінаў Чырвонай Арміі.

Так, у сакавіку 1944 года па загаду камандуючага 9-й арміяй генерала Харцэ ў раёне вёскі Азарычы былой Палескай вобласці каля пярэдняга краю нямецкай абароны дзейнічала тры лагеры. Сюды пад узмоцненым канвоем войск СС і ахоўнай паліцыі сагналі дзесяткі тысяч людзей, вялікую колькасць дзяцей, непрацаздольных жанчын і старых з многіх населеных пунктаў Гомельскай, Магілёўскай і былой Палескай абласцей. Адзін з лагераў размяшчаўся на балоце каля пасёлка Дзерць, другі -- за 4 кіламетры на паўночны захад ад Азарычаў, трэці -- на балоце за 3 кіламетры на захад ад вёскі Падасіннік.

Як указвалася ў паведамленні Надзвычайнай дзяржаўнай камісіі, лагеры ўяўлялі сабой адкрытую плошчу, абнесеную калючым дротам, з замініраванымі подступамі. Ніякіх пабудоў нават лёгкага тыпу на тэрыторыі лагераў не было. Вязні размяшчаліся на зямлі. Многія з іх страцілі здольнасць рухацца і без памяці ляжалі ў гразі. Зусім распранутым і галодным людзям строга забаранялася разводзіць кастры, збіраць сухое галлё для падсцілкі, набліжацца да дротавых загараджэнняў. За спробу парушыць гэты рэжым гітлераўцы расстрэльвалі.

У лагерах смерці ў раёне Азарычаў за некалькі дзён яны знішчылі звыш 8 000 савецкіх грамадзян. У сярэдзіне сакавіка 1944 года часці Чырвонай Арміі разграмілі фашысцкія войскі на гэтым участку фронту і вызвалілі вязняў, што засталіся жывымі. Сярод вызваленых знаходзілася 15 960 дзяцей да 13 гадоў, непрацаздольных жанчын -- 13 072 і старых -- 4 448. Падобныя лагеры, у якіх утрымліваліся разам са здаровымі і людзі, хворыя на тыф, гітлераўцы стваралі ў Магілёўскай, Віцебскай і на тэрыторыі іншых акупіраваных абласцей.

Нацысцкая палітыка генацыду і "выпаленай зямлі" ва ўсёй паўнаце праявілася ў перыяд правядзення карных аперацый, якія ўяўлялі сукупнасць тэрарыстычных акцый ваеннага, палітычнага, эканамічнага характару і мелі сваёй мэтай задушыць партызанскі рух, усталяваць непадзельнае панаванне фашысцкіх уладаў на ўсёй часова акупіраванай тэрыторыі.

Карныя аперацыі супраць партызан і насельніцтва Беларусі гітлераўцы праводзілі з першых дзён акупацыі. Ужо ў ліпені 1941 года паліцэйскі полк "Цэнтр" правёў карную акцыю ў Белавежскай пушчы і бліжэйшых раёнах, у ходзе якой знішчыў многія населеныя пункты. У жніўні часці 221-й і 286-й ахоўных дывізій правялі карныя аперацыі ў раёне Івацэвічаў і каля Лепеля, а падраздзяленні 162-й і 262-й пяхотных дывізій -- у Багушэвіцкім раёне. У данясенні аб выніках аперацыі ў раёне Багушэўска карнікі адзначалі, што імі расстраляна 13 788 чалавек з ліку грамадзянскага насельніцтва і 714 савецкіх ваеннапалонных. Тады ж гітлераўцы спалілі вёскі Галашчакіна, Засценкі, Спругі, Навязкі, Цесны.

Буйную карную аперацыю ў ліпені-жніўні 1941 года фашысты правялі ў паўднёвых раёнах Беларусі пад кодавай назвай "Прыпяцкія балоты". Камандзір 1-га палка кавбрыгады СС у справаздачы пісаў, што толькі адзін з яго атрадаў у Старобінскім раёне ўзяў у палон 239 і расстраляў 6 504 жыхара. Камандзір 2-га палка гэтай жа брыгады даносіў наступнае: "Мы заганялі жанчын і дзяцей у балота, але гэта не дало адпаведнага эфекта, таму што балота аказалася недастаткова глыбокім, каб можна было ў ім патануць".

Як відаць з прыведзеных прыкладаў, гэта былі не выпадковыя акцыі, а абдуманыя і арганізаваныя дзеянні гітлераўскіх захопнікаў. Яны планаваліся камандаваннем фашысцкага вермахта і праводзіліся ў буйных маштабах падначаленымі войскамі самастойна ці ва ўзаемадзеянні з падраздзяленнямі СС і службы бяспекі.

Яшчэ 13 мая 1941 года Гітлер падпісаў дырэктыву "Аб выкананні ваеннай юрысдыкцыі ў вобласці "Барбароса", а таксама аб асобых паўнамоцтвах войск".

Працяг. Пачатак у №№ 25-26, 27.

Ігар КУЗНЯЦОЎ.

# ВІКТАР ВАЛЬТАР І ЯГО РАМАН "РОДЖАНЫЯ ПАД САТУРНАМ"



(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).

Працаваў настаўнікам у беларускіх школах вёсак Плейкі і Келава, у Дзвінску, Дадатковай беларускай школе ў Рызе, быў яе дырэктарам з 1930 года.

У друку пачаў выступаць з 1923 года. Газеты "Голас Беларуса" (Рыга), "Наша доля", "Новы шлях" (Дзвінск), часопісы "Крывіч", "Замежная Беларусь" (Прага), "Родныя гоні", "Студэнцкая думка" публікуюць яго літаратурныя нарысы, невялікія апавяданні, абразкі, вершы ("Аднабочнікі", "Леснікова сена", "Песня гладыятараў", "Хмары стромныя павіслі...", "Покліч сялянскага сына", "Дух часу" і інш.). Пра гэты перыяд творчасці В. Вальтара пісаў К. Езавітаў, які на той час жыў і працаваў у Рызе, выдаў пасмяротны нарыс "Віктар Бенядыктавіч Вальтар", а "Беларускае выдавецтва ў Латвіі" выпусціла яго апавяданне "Леснікова сена" (1932 год). Аднак найбольш актыўна В. Вальтар удзельнічаў у літаратурнай групе "Першакрокаўцаў" і зборніку "Першы крок" (1929). У тэматычным накірунку В. Вальтар, як і многія пісьменнікі таго часу, часцей за ўсё звяртаўся да традыцыйнай у беларускай літаратуры тэмы жыцця сялянства, імкнуўся садзейнічаць сваімі творамі ўмацаванню яго нацыянальнай свядомасці, у паэзіі заклікаў да барацьбы за незалежнасць, лепшую долю. І ўсё ж, мяркуючы па яго першым буйным творы -- рамане "Роджаныя пад Сатурнам", сапраўднае прызванне В. Вальтара -- проза. З першых старонак раман захапляе незвычайнасцю стылю, мовы, глыбінёй пранікнення ў духоўны свет герояў, займальнасцю ў лепшым сэнсе. Гэта першы ў беларускай прозе твор, прысвечаны зусім не даследаванай тэме: беларуская Прага пачатку 20-х гадоў, беларускія студэнты, эмігранты, дзеячы БНР. Кампазіцыйна ён складаецца з 3-х квадраў, вызначаецца хранапагічнай паслядоўнасцю жыцця асноўных дзейных асоб, рэтраспектыўнымі адступленнямі дзеля грунтоўнага і ўсебаковага раскрыцця характару галоўнага героя, студэнта філасофскага факультэта Пражскага універсітэта Тугоўскага. Гэтыя рэтраспекцыі дапамагаюць лепш зразумець лёс здольнага, але беднага юнака, які быў накіраваны на вучобу за мяжу. І пачынаецца наша чытацкае суперажыванне за жыццё героя, пастулова мы ўваходзім у ягоны ўнутраны,духоўны свет, багаты супярэчнасцямі, роздумам, маладымі памкненнямі і страсцямі. Што азначала апынуцца ў цудоўным, вясёлым, але чужым горадзе студэнту без стыпендыі, без усялякай дапамогі, вядома кожнаму. В. Вальтар, які сам некалі перажываў падобнае становішча, не проста апісвае, а пераканаўчымі мастацкімі сродкамі перадае змрочны стан Тугоўскага, якому адпавядае такое ж змрочнае восеньскае надвор'е, халодны манатонны дождж, слата, сум, што навявае думкі аб самагубстве ад гэтай неўладкаванасці, адзіноты, беднасці. Быццам трапляеш у інтэрнат для студэнтаў і эмігрантаў, які знаходзіўся ў адным з найпрыгажэйшых пражскіх паркаў. Тут жылі рускія, украінцы, беларусы, сярод якіх было нямала здольных музыкантаў, паэтаў, мастакоў. І быццам акунаешся ў іх нялёгкае жыццё, студэнцкі побыт, думкі, перажыванні, узаемаадносіны.

Тугоўскі пачынаў успамінаць сваё жыццё і разумець, што нянавісць да задаволеных людзей нарадзілася ў дзяцінстве, калі ён з маці жыў у цёмным падвале каменнага дома, чуў сумныя матчыны песні, а наверсе ў багатых пакоях раскашавала сям'я Загорскіх, і яму, прачкінаму сыну, зрэдку дазвалялася гуляць з іх сынам Янам, які пагардліва ставіўся да свайго аднагодка. І пазней, калі разам з Янам вучыўся ў рэальным вучылішчы, ён увесь час адчуваў сваю беднасць і прыніжэнне, не было чым плаціць за вучобу, хоць у адрозненне ад Яна, Пётр Тугоўскі быў выдатнікам. Падчас бежанства ў Харкаве і пазней, калі пачалася рэвалюцыя, яны апынуліся па розныя бакі барыкад: Тугоўскі паверыў у дэмакратычныя лозунгі бальшавікоў. Загорскі вітаў белых генералаў. Але прыгледзеўшыся, як жывуць бальшавіцкія камісары ў былых барскіх палацах, Тугоўскі страшэнна расчараваўся ў рэвалюцыі: ці ж можна зноў параўнаць жыццё яго маці, якая па-ранейшаму цяжка працавала, каб сын мог вучыцца, з жыццём новых паноў? "Рэвалюцыя, як мора, ускалыхнуўшае ўсё, што было на дне, зноў апусціла на дно тое, што там было. Хто быў нічым, той і застаўся нічым...".

Не вытрымаўшы жыцця ў чырвоным Харкаве, Тугоўскі вярнуўся на Бацькаўшчыну, дзе пачынаў свой наступ беларускі рух. З натхненнем і радасцю завяршаючы сярэднюю адукацыю ў беларускай гімназіі, ён успрымаў словы дырэктара, які выпраўляў яго на далейшую вучобу ў Прагу, казаў, як патрэбны адукаваныя людзі і каб ён вяртаўся адтуль прафесарам...

І вось тут, у Празе, не было на што жыць; ён зноў стаў жабраком, бадзягам з сярэдняй адукацыяй. І ён параўноўваў жыццё чэшскага пралетарыя са сваім: у таго чыстыя прыгожыя пакоі з добрай мэбляй, з кветкамі на вокнах... Зноў пачынае згадваць жабрацкае жыццё, зноў авалодваюць настойлівыя, неадчэпныя думкі -- ён, відаць, як і ўся беларуская нацыя, нарадзіўся пад Сатурнам.

Гэтыя яго думкі атрымалі пацвярджэнне, калі ў Празе ён сустрэўся з Янам Загорскім, які стаў студэнтам-медыкам, вёў разгульнае, багатае жыццё, быў заўсёды добра апрануты, сыты, задаволены, меў поспех у жанчын, асабліва ў прыгожай беларускай студэнткі Галены Вярхоўскай, у якую закахаўся і Тугоўскі...

І вось тут пачынаюцца самыя цікавыя старонкі рамана.. Беларускі рух, беларускія партыі, суполкі сярод студэнтаў і эмігрантаў у Празе, праблемы нацыянальнага Адраджэння, незалежнасці, служэння Бацькаўшчыне – усё гэта незвычайна нагадвае нашу сённяшнюю сітуацыю на Беларусі. Каторы раз мы зноў пачынаем размовы пра аднаўленне культуры, мовы, гісторыі, імкнемся даказаць, што мы старажытная еўрапейская нацыя, незалежная і ад Расіі, і ад Польшчы, што ў нас нізкая нацыянальная свядомасць, якую ўсімі сіламі трэба адраджаць, узнімаць; шукаем і спадзяёмся, што прыйдзе той прарок, той Маісей, хто выведзе нас у зямлю запаветную... Мы, быццам тыя пражскія студэнты, на сваіх вечарынах і сустрэчах марым, што хутка скончыцца зіма, якая скавала нашу лапцюжную Беларусь, трэсне лёд, які пакрыў тоўстым слоем думкі і сэрца народа. Лёд трэсне пад гарачым дыханнем сонца, сонца ўласнай культуры, а між іншым мы забылі нават сваю мову...

Сярод пражскіх "младабеларусаў", якія тады смела ішлі за прарокам Адраджэння Купалам, вылучаліся найбольш аўтарытэтныя, вядомыя і дзейсныя асобы: "айцец" Кірыла Бурачэўскі, якога ўсе паважалі і любілі за памяркоўны характар, добразычлівасць, імкненне дапамагчы. Ён заклікаў усіх да цішы і брацкай згоды, папярэджваў адвечны раскол у беларускім асяродку, дзе заўсёды былі і ёсць крайне правыя і крайне левыя, прадстаўнікі прарускай і прапольскай арыентацыі, непрымірымыя разбуральнікі і тыя, хто заклікае да адзінства перад пагрозай развалу, стратай хісткай незалежнасці. Была створана "Беларуская Грамада ў Празе". Але на той час яна развалілася і падзялілася на дзве варожыя групы: адна -- "Таварыства беларускіх студэнтаў", утвораная Янкам Станкевічам, куды ўвайшлі больш заможныя, якія адмаўлялі сацыялізм, другая група, Тамашэвіча (Тамаша Грыба), выступала за сацыялізм і лічыла, што спачатку трэба ажыццявіць сацыяльнае вызваленне, а потым нацыянальнае.

(Заканчэнне на 6-й—7-й стар.).

МІНСКАЯ ЕПАРХІЯ Ў ПЕРЫЯД РЭПРЭСІЙ

# ПРАЗ ПАКУТЫ — ДЗЕЛЯ ВЕРЫ

Імкнучыся адарваць праваслаўных беларусаў ад Расіі, нямецкія ўлады аказвалі моцны ціск на мясцовы епіскапат з мэтай абвяшчэння аўтакефаліі. Кананічна гэта было зусім не апраўдана, таму што ішла вайна, і Царква была пазбаўлена магчымасці зрабіць вольны выбар. У самой Царкве адсутнічалі перадумовы да абвяшчэння аўтакефаліі. Яна не магла стаць аўтакефальнай у выніку таго, што заставалася моцна аслабленай папярэднімі ганеннямі і не была гатова да самаадвольнага быцця.

Тым не менш, пад націскам уладаў 30 жніўня 1942 года ў Мінску пачаў работу сабор духавенства і міран, скліканы пад націскам акупантаў і калабарацыяністаў спецыяльна для абвяшчэння аўтакефаліі. На саборы прысутнічалі прадстаўнікі толькі дзвюх беларускіх епархій -- Мінскай і Навагрудскай. Удзельнікі сабора склалі пісьмы, звернутыя да ўсходніх патрыярхаў, з просьбай аб дараванні аўтакефаліі. Гэтыя пісьмы ў наступным так і не дайшлі да адрасатаў, і хаця пытанне аб абвяшчэнні аўтакефаліі абмяркоўвалася на саборы, але аб абвяшчэнні яе ў кананічным сэнсе гэтага слова размовы быць не магло.

Слабасць мясцовай Царквы асабліва праявілася ў недахопе кваліфікаваных кадраў духавенства. Занадта моцны ўрон панесла Праваслаўная Царква ў гады праследавання за іншадумства, занадта многа людзей, якія мелі дачыненне да Царквы, загінула ў 20--30-я гады ў канцэнтрацыйных лагерах. Таму духавенства не хапала. Нехта з бацюшкаў прыязджаў з Заходняй Беларусі, асядаючы ў Мінску ці іншых гарадах і вёсках Усходняй Беларусі; нехта знаходзіўся з таго духавенства, якое часткова ацалела на месцах, але да пары да часу ўтойвала свой сан, працуючы на грамадзянскіх пасадах. Пастырскія курсы не маглі папоўніць патрэбу ў святарах. І гэта балюча адбівалася на ўсёй Царкве.

Тым не менш, царкоўнапрыходскае жыццё за гады вайны прыкметна актывізавалася і ажыло. І калі летам 1944 года з адступленнем немцаў на захад выехаў увесь праваслаўны епіскапат, ва Усходняй Беларусі засталіся дзеючымі сотні адкрытых у ваенны перыяд цэркваў.

### ПАСЛЯВАЕННЫЯ АРЫШТЫ 1944--1951 ГОДАЎ

Пасля вызвалення Беларусі ад немцаў бальшавікі сталі жорстка распраўляцца з тымі свяшчэннаслужыцелямі, якія праявілі асаблівае стараннe ў арганізацыі царкоўнага жыцця на акупіраванай тэрыторыі. Епіскапы змаглі выехаць, але засталіся прыходскія свяшчэннікі, якія ў той ці іншай ступені пацярпелі ўжо ў першыя пасляваенныя гады.

Дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што рэпрэсіі ў адносінах да духавенства ў 1944--1951 гадах не насілі такога масавага характару, як у даваенны перыяд. Улады не рашыліся ў масавым парадку закрываць храмы, адкрытыя пры патуранні фашыстаў. Вайна таму-сяму навучыла камуністаў, у некаторай ступені перарадзіўшы грамадства, змяніўшы, хаця і нязначна, прыроду ўлады ў ім...

У асноўным рэпрэсіі закранулі найбольш вядомых прадстаўнікоў духавенства, тых, хто быў блізкі да архіепіскапа Філафея (Нарко), які з 1942 года кіраваў Беларускай Праваслаўнай Царквою, а таксама айцоў-благачынных, якія, як правіла, актыўна займаліся арганізацыяй прыходскага жыцця на месцах.

Сярод арыштаваных у першыя ж месяцы пасляваеннага часу вылучаюцца наступныя імёны: протаіерэй Мікалай Ясінскі, які служыў у царкве Св. Сафіі ў Бабруйску і прыгавораны да 10 гадоў канцлагера за выданне газеты "Церковный благовест"; барысаўскі благачынны а. Іаан Строк, які ў 1944 годзе схаваў у сваім храме 75 дзетак з дзетдома, выратаваў іх ад артабстрэлу і ўсё ж арыштаваны і прыгавораны да 5 гадоў канцлагера; псаломшчык з вёскі Лебедзева (Маладзечанскі раён) Іван Корсак, пазбаўлены волі за смелыя выказванні супраць ганенняў даваенных гадоў.



У ліку пацярпеўшых было нямала мінскіх свяшчэннікаў і проста міран, а менавіта: настаяцель царквы Св. Марыі Магдаліны на старажоўскіх могілках прот. Канстанцін Шашко, епархіяльны місіянер архімандрыт Серафім (Шахмудзь), які ў 1943--1944 гадах служыў у Мінскім Св. Духавым саборы, настаяцель царквы Св. Мікалая Цудатворца ў раёне Козырава прот. Іосіф Голуб, настаяцель царквы ў вёсцы Сенніца, побач з Мінскам, свяшчэннік Антоній Жабуртовіч, протадыякан Спаса-Праабражэнскай царквы Георгій Калядзюк, выкладчык пастырскіх курсаў у Мінску Міхаіл Валасевіч, казначэй Спаса-Праабражэнскай царквы схіманахіня Серафіма (Едзіновіч), дыякан Св. Петрапаўлаўскага храма на Нямізе а. Іаан Шышла і іншыя.

У 1945 годзе па лжываму агавору быў арыштаваны і прыгавораны да 10 гадоў канцлагера свяшчэннік з Лагойска а. Антоній Зубовіч. У 1946 годзе, таксама па агавору, арыштаваны настаяцель Св. Уваскрасенскай царквы Клецка прот. Канстанцін Байко, які атрымаў 15 гадоў катаргі. У 1948 годзе забралі свяшчэнніка Міхаіла Хвалько з Тэлядовіч, асудзілі яго на 10 год пазбаўлення волі.

Апошнія з вядомых нам арыштаў прыпалі на 1950--1951 гады. 28 ліпеня 1950 года за захоўванне ў сябе дома кніг рэлігійна-філасофскага і багаслоўскага зместу быў арыштаваны прот. Матфей Крыцук, настаяцель царквы ў вёсцы Вялікая Лысіца Нясвіжскага раёна. Яго прыгаварылі да 25 гадоў зняволення ў канцлагеры, дзе ён і памёр. Вясной 1951 года арыштавалі цэлую групу свяшчэннаслужыцеляў, у прыватнасці: валожынскага благачыннага прот. Платона Сліжа, свяшчэнніка Еўстафія Басльіка з Забрэззя (Валожынскі раён), свяшчэнніка Мікалая Білевіча, які служыў у Св. Пакроўскай царкве в. Гародзькі (таго ж раёна). Пералік гэты можна было б працягваць...

Ганенні на Царкву працягваліся і ў наступныя гады, хаця і насілі замаскіраваны характар. Яны абрушыліся на яе са страшнай сілай у хрушчоўскі час, давалі аб сабе знаць і пазней. Але мы ў сваім нарысе абмяжоўваемся 1951 годам, таму што вышэй гэтага года, працуючы са следчымі справамі архіва КДБ Рэспублікі Беларусь, мы ўзняцца пакуль не змаглі.

Перажытае Царквой у гады праследаванняў за іншадумства назаўсёды застанецца ў нашай памяці. У гэтай памяці -- наша сіла, нашы надзеі на будучыню. Пройдуць гады, дзесяцігоддзі, але тое пакутніцтва, якім пазначана жыццё соцень свяшчэннікаў і проста вернікаў Беларускай Праваслаўнай Царквы, назаўсёды застанецца з намі. Аб ім нельга, немагчыма забыць. Памяць аб пакутніках заклікае да будучыні, яна жыватворыць сабой наша далейшае жыццё.

Свяшчэннік
Фёдар КРЫВАНОС.

НА ЗДЫМКУ: Іван КОРСАК, псаломшчык з Лебедзева.

Заканчэнне.
Пачатак у №№ 22-24, 25-26, 27.

ВЯРТАННЕ ДА ТЭМЫ



# КРУПЕЦКАЯ КРЫНІЦА

**Зараз вельмі прынята разважаць на тэму былога і страчанага. Сапраўды, страчана нямала, шмат чаго беззваротна. Але, мабыць, больш прадукцыйна, калі думкі і справы скіраваны ў будучыню, у тым ліку і ў рэчышча аднаўлення, адраджэння таго лепшага, што павінна было перайсці да нашчадкаў з мінулага, але недзе там, на гістарычных перакрыжаваннях, згубілася. Менавіта такой высакароднай працай, якую можна было б умоўна назваць повяззю часоў, і займаецца наш сённяшні субяседнік, мінскі навуковец, матэматык, а адначасна старшыня праваслаўнага брацтва ў імя архістратыга Божага Міхаіла -- Алег ДЗІХЦІЕЎСКІ. Крыху раней, у адным з вясенніх нумароў нашай газеты, мы змясцілі здымак незвычайнай крынічкі, якая б'е амаль у самым цэнтры Мінска, і паабяцалі расказаць пра гэтае месца больш падрабязна. Дык вось Алег Вітальевіч якраз і ёсць той чалавек, які ведае пра Крупецкую крыніцу (а яна завецца іменна так) усё ці амаль усё.**

*-- Алег Вітальевіч, як вы ўсё такі трапілі да Крупецкай крыніцы?*

-- Пачаць, мусіць, трэба з таго, што гады тры назад епархіяльныя гісторыкі знайшлі ў архівах звесткі пра тое, што ў Крупцах існаваў праваслаўны храм. Высветлілася, што гэтая Свята-Пакроўская царква была адной з самых шануемых на Беларусі, бо, па-першае, у 1612 годзе на крыніцы побач з вёскай Крупцы была яўлена цудатворная ікона Божай Маці, якая набыла вялікую вядомасць. А, па-другое, з алтара царквы біла гаючая вада.

На працягу стагоддзяў храм неаднойчы перабудоўваўся. Рабілася гэта заўсёды на народныя ахвяраванні. Дарэчы: у час адной з перабудоў сярэбранае панікадзіла, іншыя каштоўныя ўпрыгажэнні былі дасланы маскоўскімі купцамі, што зноў-такі гаворыць пра вядомасць і іконы, і царквы.

Але далей была рэвалюцыя. У 1924 годзе царкву закрылі, свяшчэннікаў -- каго саслалі, а каго і расстралялі... Маёмасць царквы, натуральна, канфіскавалі. Але і тады людзі з наваколля прыходзілі да храма, тым больш, што гаючая крыніца па-ранейшаму біла з алтара.

*-- Цікава, міліцыянераў улады не выстаўлялі каля царквы?*

-- Было і такое -- барацьба ёсць барацьба. Але паколькі народ усё-такі хадзіў сюды, то ў 1936 годзе царкву проста знеслі. Усё пасеклі, зруйнавалі, знішчылі, у тым ліку і мноства ікон.

*-- А цудатворная ікона?*

-- Як вядома, яна ад 1612 года і да 1924-га была ў храме. Калі царкву закрылі, ікону перадалі так званым "абнаўленцам". Далей ёсць звесткі, што яна трапіла ў музей, а пасля Вялікай Айчыннай наогул знікла. Магчыма, была вывезена немцамі, якія, нягледзячы на адступленне, усё каштоўнае акуратна пакавалі і цягнулі за сабой. Пасля даводзілася чуць, не ведаю, наколькі інфармацыя дакладная, што Крупецкая Божая Маці выстаўлялася ў Злучаных Штатах Амерыкі ў адным з прыватных збораў. Калі яна сапраўды трапіла ў прыватныя рукі, то вярнуць яе практычна немагчыма. Толькі калі ласкай Божай... Цудам...

*-- Алег Вітальевіч, а што сёння адбываецца каля Крупецкай крыніцы?*

-- Як я ўжо казаў, пра крыніцу і царкву нарэшце ўзгадалі. І наша брацтва ўзялося за аднаўленне храма. Падрыхтаваны неабходныя дакументы, зроблена першая работа, тут зарэгістраваны асобны самастойны прыход. І, безумоўна, у першую чаргу была афармлена крыніца, якая стала вельмі папулярнай у гараджан. Між іншым крыніцу ўвесь час нехта даглядаў. Імёнаў гэтых людзей не ведаю, але яны рабілі добрую справу.

*-- Напэўна, спатрэбіліся даведкі ад санітарных службаў?*

-- А як жа. Мы адразу аддалі ваду на аналіз, і высветлілася, што па якасці яна адна з лепшых у Мінскай вобласці. Пры аналізе адзнакі выстаўляюцца па дваццацібальнай шкале. Чым большы бал, тым горшая вада. У нашай вады па шасці пунктах -- нуль.

*-- Раз ёсць прыход -- трэба весці і службу, але дзе?*

-- Спачатку паставілі стары чыгуначны вагон, пазней пабудавалі невялічкую каменную царкву, таксама часовую. А ў планах, безумоўна, аднаўленне асноўнага храма -- Свята-Пакроўскай царквы, і менавіта там, дзе яна і стаяла, -- на ўзвышшы. Гасподзь захаваў усё, як і было.

Калі мы на самай справе хочам сапраўднага адраджэння, то яно павінна грунтавацца на духоўным падмурку. Можа таму, што раней мы будавалі толькі на матэрыялістычнай аснове, усё так хутка і развальваецца... Я перакананы: будзе духоўнасць -- з'явяцца і эканоміка, і культура.

*-- Алег Вітальевіч, наогул члены брацтва -- людзі свецкія...*

-- Але праваслаўныя, якія бяруць на сябе абарону і падтрымку веры. Так было, так быць павінна.

Сёння ўжо многа брацтваў, але ўзровень, безумоўна, не той, як раней. І ў першую чаргу таму, што колішнія братчыкі былі багатымі праваслаўнымі людзьмі, цяпер жа... багатыя ёсць, а наконт веры -- на жаль.

Нашы братчыкі, якіх не так ужо і шмат, робяць усё, што могуць, але што тычыцца сродкаў на аднаўленне царквы, то іх трэба літаральна выпрошваць, праўда, справа паціху рухаецца. Вось ужо і маленькую часовую цэркаўку дабудоўваем -- у ёй чалавек 150 змесціцца. А для асноўнай царквы і хрысцільні пры ёй мы заказалі і практычна аплацілі геалагічныя пошукі. Але на будаўніцтва грошай пакуль няма, хаця пэўныя перамовы вядзем...

*-- А хто вашы, як цяпер кажуць, спонсары?*

-- Гэта звычайна недзяржаўныя ўстановы. На жаль, дзяржаўныя прадпрыемствы, буйныя заводы самі сёння на мяжы банкруцтва і падзяліцца могуць хіба што даўгамі.

У нас няма крыніцы пастаяннага фінансавання. Звычайна знаходзім тых, хто дапамагае аплачваць асобныя рахункі, таму ўсё пакуль няпэўнае. Але, паўтаруся: калі патрэбны грошы -- яны знаходзяцца, і мы ўдзячныя ўсім, хто нам дапамагае.

*-- Акрамя царквы, што яшчэ ўключае праект?*

-- Хрысцільню, цэнтральныя вароты. А яшчэ мы хацелі б арганізаваць багадзельню і дзіцячы цэнтр...

*-- У вашых задумах зноў зрабіць у алтары крыніцу?*

-- Мы не можам гэтага зрабіць. Яна ж калісьці забіла сама, без людской дапамогі, калі так здарыцца зноў -- то і дзякуй Богу!

Побач з крыніцай ёсць і сажалкі. Яшчэ пяць год назад яны былі чыстымі. А зараз усё забруджана. Трэба чысціць, прыводзіць у належны стан, пасля чаго ў гэтых сажалках можна было б летам праводзіць хрышчэнні. Асноўная ж крыніца і сёння ў добрым стане. Забрудзіць яе не ўдалося, нягледзячы нават на тое, што яна побач з вялікай гарадской магістраллю. Нездарма, мабыць, людзі, якія прыходзяць сюды, завуць гэтую ваду святой.

**Гутарку вяла**
**Галіна УЛІЦЁНАК.**

## ГІСТАРЫЧНАЯ ДАВЕДКА

**За 5 вёрстаў ад горада Мінска стаіць вёска Крупцы памешчыка Вярыгі, здавён славіцца цудатворнай іконай Божай Маці. Сюды па нядзелях з горада ад мала да вяліка, асабліва летам, у так званы, па тутэйшаму звычаю, маладзіковы тыдзень (першы тыдзень навалуння) спяшаюцца, як бы для супакаення душы ад мітусні гарадской, лічачы за свяшчэнны абавязак перад абразам Богамаці выказаць рэлігійныя свае пацуцці, суцешыць сябе ў смутку, неразлучным з кожным у гэтым жыцці і спатоліць смагу душы і цела струменямі жываноснай крыніцы, што выцякае з-пад самага алтара храма, які стаіць на гары.**

**Па паданнях мясцовай царквы, год з'яўлення іконы (ікона з'явілася непасрэдна на крыніцы. -- Аўтар.) пазначаны на іконе: 1612 год 1-га кастрычніка, пісана на кіпарыснай дошцы вышынёй 1, шырынёй 3/4 аршына. Царква пабудавана ў тым жа 1612 годзе.**

**Па даўнасці часу і застаючыся амаль без падтрымкі, царква прыйшла ў заняпад і разбурэнне. Прыхільнасць хрысціян, якія пакланяюцца абразу, выклікала стараннае жаданне аднавіць храм.**

**У аснове ўмоваў праекта ляжала даць храму характар праваслаўны. Уваход у царкву з трох бакоў па асоба пабудаваных ганках. З уваходу на левым баку ў новапабудаваным вызалачаным кіёце пастаўлены цудатворны абраз Божай Маці ў тым жа ўбранні і рамцы без усялякіх зменаў, а на правым баку ў такім жа кіёце пастаўлена храмавая ікона Пакрава Прасвятой Багародзіцы. У іканастасе паўстае нам жывапіс па ўзорах старажытных. ...Іконы гэтыя ахвяраваны купецкім сынам Аляксандрам Свечнікавым і яго жонкай.**

**26 верасня ў дзень свята Апостала і Евангеліста Іаана Багаслова прызначана было асвячэнне царквы, яшчэ напярэдадні гэтага дня вечарам у прысутнасці начальніка губерні... здзейснена была Саборам, пасля перанясення цудатворнага абраза ў новапабудаваны кіёт, усяночная, а назаўтра, пры мностве чыноўнікаў, дваран і іншых, якія сабраліся з горада і навакольляў, праведзена было высокапраасвяшчэнным Міхаілам асвячэнне царквы...**

*(Звесткі знойдзены ў архіве свяшчэннікам Фёдарам КРЫВАНОСАМ).*

## АХОВА ЗДАРОЎЯ



**Завяршылася дзесяцігадовая "эпапея" будаўніцтва важнага для жыхароў Віцебска аб'екта -- радзільнага дома N 2. Не дзіўна, што аснасціць яго пастараліся найноўшым абсталяваннем. Толькі Міністэрствам аховы здароўя рэспублікі для гэтага выдзелена звыш 200 тысяч долараў, а намаганнямі мясцовых улад абсталяваны аддзяленні інтэнсіўнай тэрапіі нованароджаных, тэрапіі і рэанімацыі парадзіх.**

**НА ЗДЫМКАХ: новы радзільны дом; за гады работы акушэрка Ларыса ЯКУЦЁНАК прыняла сотні нованароджаных.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**



ПАЧУЎШЫ сёлета 14 сакавіка безапеляцыйную заяву тэледыктара "Астанкіна" з нагоды факсімільнага перавыдання "Радзівілаўскага летапісу", што гэты "рускі летапіс" вярнуўся ў Расію пасля доўгага знаходжання ў літоўскіх князёў Радзівілаў, я асмельваюся запярэчыць выказванню тэледыктара, які па сутнасці ўвёў тэлегледачоў у зман, і зрабіць у сувязі з гэтым некалькі заўваг.

Сучасны чытач, пачуўшы словы "літоўскі князь", адразу залічвае яго да прашчура сучаснага літоўца, а пачуўшы словы "рускі князь", -- да сучаснага рускага, а ён між тым можа з'яўляцца прашчурам сучаснага беларуса або ўкраінца. Так распарадзіўся намі гістарычны лёс.

Прыведзеныя факты сведчаць, што "літоўскія князі" Радзівілы, сярод якіх былі пра-

## ШТО МЫ СТРАЦІЛІ

# ЦЯЖКА ЗМАЎЧАЦЬ

Па-першае, род Радзівілаў, хоць і быў заснаваны на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага ў XV стагоддзі (само Княства ўзнікла ў пачатку XIII стагоддзя на тэрыторыі цэнтральнай Беларусі), але ж ніколі не належаў да княжацкіх родаў сучасных літоўцаў, якія карыстаюцца па сутнасці чужым этнонімам. Варта нагадаць, што ў час узнікнення роду Радзівілаў (пачатак XV стагоддзя) сучасныя літоўцы называліся жэмайтамі і аўкштайтамі і засялялі тэрыторыю на захад і поўнач ад Вільні. Гэтыя плямёны далучыліся да Вялікага Княства Літоўскага толькі пасля 1422 года згодна з Мельнскім мірным дагаворам, заключаным паміж Тэўтонскім ордэнам, з аднаго боку, і Польшчай і ВКЛ -- з другога. Паводле гэтага дагавора тэўтоны канчаткова адмовіліся ад Жэмайціі і Судовіі.

Гістарычныя факты сведчаць, што этнонім "літвін" ужываўся адносна сучасных беларусаў у XIII–XIV стагоддзях яшчэ да таго, як сучасныя літоўцы далучыліся да Вялікага Княства Літоўскага ў пачатку XV стагоддзя. Прыгадаем, што яны прынялі хрысціянне толькі ў канцы XIV стагоддзя ад каталіцкай царквы. А князі Вялікага Княства Літоўскага былі праваслаўнымі хрысціянамі ўжо ў XIII стагоддзі.

З другога боку, нас, сучасных беларусаў, у тыя ж часы называлі "русінамі". Але чаму? Таму што гэтым тэрмінам вызначалася рэлігійная прыналежнасць большай часткі жыхароў ВКЛ да праваслаўя. "Русінамі" называлі і праваслаўных украінцаў. Тлумачэнне такога двайнога вызначэння да жыхароў ВКЛ (а ў ім колькасна пераважалі тыя, каго пазней "маскавіты" называлі беларусамі) можна добра прасачыць па тым, як называлі ў XVI стагоддзі Ф. Скарыну: "палачанін", "літвін" і "русін".

Неабходна дадаць, што тэрмін "русін" узнік у X стагоддзі на тэрыторыі Кіеўскай дзяржавы, якая прыняла праваслаўе, як яго прынялі ў той час і старажытныя беларускія княствы -- Полацкае і Тураўскае, а крыху пазней Навагрудскае, Гродзенскае, Віленскае. Заўважым, што Маскоўскага княства яшчэ не было. Яно ўзнікла амаль пра 250 год пасля паяўлення канфесіёніма "русін" (рускі) у Кіеве і іншых феадальных княствах, залежных пэўны час ад кіеўскага князя, але толькі да паловы XI стагоддзя. Бо пазней пачаўся працэс феадальнага адасаблення княстваў ад Кіеўскай дзяржавы.

Гістарычна ўтвораная блытаніна ва ўжыванні канфесіёнімаў і этнонімаў прыводзіць многіх чытачоў да памылковых вывадаў.

Трансфармацыя этнонімаў "літва" і "літвін" у "літовец" і пазнейшае замацаванне яго (на падставе дзяржаўнай прыналежнасці) за двума колькасна меншымі этнасамі, што называліся, дарэчы, "жэмайты" і "аўкштайты" (а яны таксама, як і ліцвіны-беларусы, пражывалі на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага), прывяло да блытаніны ў вызначэнні пазнейшай нацыянальнай прыналежнасці. Католікаў жэмайтаў і аўкштайтаў пачалі называць літоўцамі таксама, як і католікаў беларусаў, а праваслаўных беларусаў, украінцаў і маскавітаў -- "русінамі" (рускімі).

васлаўныя (т.зв. "русіны") і католікі ("лаціняне"), уніяты, кальвіністы і інш. належаць да вядомага беларускага роду. У XV стагоддзі ён меў значныя зямельныя ўладанні пераважна на этнічна беларускай тэрыторыі (яна была большая, чым межы сучаснай Рэспублікі Беларусь), значна меншыя ўладанні -- на этнічна ўкраінскай (Алыка), этнічна польскай (Шыдловец) і нават на этнічна прускай тэрыторыях.

Па-другое, вядома, што Радзівілаўскі летапіс быў створаны ў XV стагоддзі, як мяркуюць сучасныя рускія даследчыкі, у Ноўгарадзе ці ва Уладзіміры і, як мяркуюць беларускія даследчыкі, у Смаленску ці Полацку. Нават калі мы адкінем гэтыя гіпотэзы, дзе ён быў напісаны, як пытанне пакуль дыскусійнае (гэта прызнаюць і сучасныя рускія даследчыкі), то ўсім вядома, што яго апошнім уладаром быў слуцкі князь Багуслаў Радзівіл. Будучы губернатарам прускім на працягу 1665--1667 гадоў, ён падараваў Радзівілаўскі летапіс Фрыдрыху Вільгельму, а той размясціў летапіс у сваёй Кёнігсбергскай бібліятэцы (таму летапіс мае яшчэ і другую назву -- "Кёнігсбергскі летапіс").

У час сямігадовай вайны Расіі з Прусіяй у 1756--1763 гадах Кёнігсберг быў захоплены і рускія вайскоўцы вывезлі Радзівілаўскі летапіс у Санкт-Пецярбург, дзе ён захоўваецца і цяпер, як і многія іншыя помнікі беларускай рукапіснай культуры. Радзівілаўскі летапіс знаходзіцца ў Расіі з 1758 года. Невядома, чаму дыктар сказала так, нібыта ён цяпер вернуты.

Па-трэцяе, Радзівілаўскі летапіс, перапісаны ў XV стагоддзі з летапісных зводаў XIII стаго-ддзя, і складаецца з "Аповесці мінулых гадоў" і летапісу за 1112--1206 гады. Для вызначэння месца яго напісання гэта не мае дачынення, бо ён значна пазнейшы. Яго гісторыка-культурная каштоўнасць у тым, што апісаныя ў ім гістарычныя падзеі праілюстраваны 617 каляровымі мініяцюрамі. Менавіта ў іх асаблівая каштоўнасць, бо яны адзіныя мініяцюры, створаныя ў XV стагоддзі, якія захаваліся да нашага часу. Некаторыя з іх адлюстроўваюць гістарычныя падзеі беларускіх зямель, напрыклад, "Бітву на Нямізе", "Паланенне князя Усяслава Полацкага" і інш. Як лічыць даследчык гэтых мініяцюр В. Шматаў, характар адлюстравання на іх сярэдневяковай архітэктуры, мэблі, адзення персанажаў, разгортванне кампазіцыі па гарызанталі сведчыць ужо пра разрыў з візантыйска-праваслаўнай традыцыяй малявання і блізкасць да заходнееўрапейскай культуры. Увогуле жывапісны стыль мініяцюр летапісу блізкі да традыцый беларускага фрэскавага жывапісу XII стагоддзя і беларускіх мініяцюр XIII--XIV стагоддзяў, што праяўляецца ў падкрэслена рэалістычна-жыццёвай трактоўцы вобразаў, адыходзе ад іканаграфічных візантыйскіх схем і канонаў. А калі ўлічыць, што да паступлення ў бібліятэку Кёнігсберга летапіс быў уласнасцю слуцкага князя Багуслава Радзівіла, то ёсць усе падставы сцвярджаць, што Радзівілаўскі летапіс належыць беларускай культуры, а не рускай. Ён аказаўся ў Расіі ў выніку ваенных рабаванняў.

**Мая ЯНІЦКАЯ.**

## СЛОВА ПРА НОВЫ ЗБОРНІК А. РУСЕЦКАГА

# З ДУШОЙ ДАВЕРЛІВАЙ І ШЧЫРАЮ

За плячыма -- амаль восемдзесят тры пражытыя гады. Пражытыя сумленна і годна. За плячыма -- важкі літаратурны набытак, а гэта ці не дваццаць паэтычных кніг, сярод іх і "Крокі сэрца", адзначаная ў 1981 годзе Літаратурнай прэміяй імя Аркадзя Куляшова. Безумоўна, пры жаданні ў гэтых зборніках можна знайсці і сям-там тое, што з вышыні нашых сённяшніх стаўленняў да шляху, пройдзенага за семдзесят з лішнім гадоў, прама скажам, не ўспрымаецца ці ўспрымаецца зусім не так, як таго хацелася б. Але ў пераважнай большасці гэта творы, за якія не сорамна не толькі самому аўтару, яны робяць гонар і ўсёй беларускай паэзіі, усёй нашай літаратуры.

Кожны творца не можа не адчуваць на сваім мастакоўскім лёсе ўплыву часу. Таму рана ці позна ў яго абавязкова з'яўляецца патрэба азірнуцца назад, выверыць колішнія арыенціры, паспрабаваць разабрацца, ці правільна жыў. Асабліва, калі ў самім грамадстве адбываюцца вялікія зрухі. Вось і Аляксей Русецкі (а гаворка ідзе менавіта пра яго) у сваёй новай кнізе "На зломе лёсу", што нядаўна выйшла ў выдавецтве "Мастацкая літаратура", робіць гэты крок да маральнага і духоўнага ачышчэння ад друзу неабавязковага, наноснага.

Галоўная тэма кнігі і ёсць гэтае ачышчэнне. Лірычны герой А. Русецкага належыць да таго ж пакалення, прадстаўніком якога з'яўляецца і сам паэт. І разам з аўтарам ён у рэшце рэшт прыйшоў да неабходнасці пераасэнсавання і таго, да чаго мае непасрэднае дачыненне сам, і ўсяго шляху, які, хочаш таго ці не, усё ж савецкі.

Гэтая споведзь асабліва даверлівая ў вершы "Выкрываецца мана":

**Запозна выкрываецца мана,**
**няўжо ж у гэтым і мая віна,**
**што прыляцеў**
**з вядомага ўсім выраю**
**з душою і даверлівай**
**і шчыраю!**

Зразумела, значна лягчэй абвінаваціць ва ўсіх грахах старэйшае пакаленне. І існуючых, як кажуць, і надуманых. Не так і складана самім ветэранам ва ўсім пакаяцца. Балазе, і гэтага ад іх патрабуюць.

Ды ці шмат што ад гэтага зменіцца? Відаць, больш неабходна і значна цяжэй ва ўсім разабрацца -- аб'ектыўна, непрадузята. І тады высветліцца, што крок да ісціны просты, лёгкі, але разам з тым і пакутлівы. Бо працаваў раней адладжаны канвеер і ідэалагічнай апрацоўкі, і фізічнага знішчэння:

**Цяпер чытаць пра**
**"справы", лютасць катаў**
**з віною нейкай...**
**Каб я ведаць мог,**
**напэўна б, там, ля Мінска,**
**ў Курапатах,**
**уночы ў яму**
**безымянна лёг.**

Гэтая ж тэма ў той ці іншай ступені знаходзіць сваё раскрыццё і ў такіх вершах, як "Не праведнікам жыў, напэўна, я...", "Равеснікі", "Рэпліка" і іншых. Балючае прызнанне, што нешта было не так, як трэба, балючае, але неабходнае. Яно і ў гэтым безназоўным вершы:

**Хаджу спавядацца соснам,**
**ужо няма каму болей;**
**як позна дайшоў, як позна**
**да сутнасці з'яў, да солі!**

І, канечне ж, вядзе паэта дарога ў родныя мясціны, у любую сэрцу вёску Студзянец, што ў Касцюковіцкім раёне. Як у вершы "Ветразі пяньковай сталіцы": "Дзе ж ты, мой Студзянец, слаўны мой?// Мне цяпер бы з празрыстай крыніцы// студзянецкай сцюдзёнай напіцца,// што пяском заплыла пад гарой".

Ды не толькі памялелі некалі шумнацечныя рэкі, і не толькі заплылі глеем бурлівыя колісь крынічкі. Яшчэ больш страшная бяда напаткала Магілёўшчыну ("Магілёўшчына"): "Хто скажа, чым Чарнобыль прарасце// у хуткім часе ў дзетках-малалетках?"

Такая вось далёка не аптымістычная размова атрымліваецца ў А. Русецкага ў яго новай кнізе. Сапраўды -- на зломе лёсу. І на зломе часу. І паэма "Насустрач лёсу", якая таксама ўвайшла ў зборнік, пазначана тым жа жаданнем пераацэнкі, пераасэнсавання. Зноў на прыкладзе пакалення, да якога належыць паэт. І чарговы раз з бескампраміснай адкрытасцю і даверам. Гэтыя ж якасці, дарэчы, паэзіі А. Русецкага былі ўласцівыя раней. А тым самым заўсёды праяўляўся (і сёння праяўляецца) яго характар. Характар чалавека сумленнага, адкрытага, які ніколі не можа прычыніць іншаму зла. І сам, жывучы годна, патрабуе таго ж ад іншых. Памылкі прызнае, ды не даруе няшчырасці, абыякавасці, не прымае прыстасавання.

Арганічна ўваходзяць у сюжэтную канву кнігі і вершы, у якіх аўтар узнімае голас у абарону мовы. Дарэчы, пра сюжэтную канву... Я не агаварыўся... Перад намі якраз КНІГА цэласная па сваёй задуме, кожны чарговы твор успрымаецца як лагічнае дапаўненне да папярэдняга. А ў выніку -- пераасэнсаванне пройдзенага шляху, сцвярджэнне маральных каштоўнасцяў, што маюць вечную сутнасць (а тут, безумоўна, не абысціся без паважнага стаўлення да роднай мовы). А яшчэ -- уменне ацэньваць прыгожае і ўменне здзіўляцца яму. Ды так, што застаецца толькі пазайздросціць аўтарскаму майстэрству.

Між іншым, і адкрываецца кніга не якім-небудзь вершам, а менавіта "Першай сімфоніяй". А яшчэ ёсць верш "Джаконда". А яшчэ...

Ад першай да апошняй старонкі чытаць А. Русецкага -- адно задавальненне. Прыемна і тое, што выдавецтва, нягледзячы на ўсе цяжкасці, якія сёння існуюць і ў паліграфіі, паклапацілася, каб кніга не толькі чыталася, а належным чынам глядзелася (мастак М. Казлоў). Атрымаўся ладны томік у так званым палепшаным афармленні.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

# ВІКТАР ВАЛЬТАР І ЯГО РАМАН "РОДЖАНЫЯ ПАД САТУРНАМ"

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

У групе сышліся сацыялісты ад самых левых -- да марксістаў. Да марксістаў належала і Галена Вярхоўская, якая неаднойчы заяўляла, што думае аддаць усе сілы за вызваленне беларускага народа. Гэту ідэю дэкларавалі прадстаўнікі ўсіх партый і груп і, як водзіцца, шмат спрачаліся пра тое, што такое нацыянальнасць, незалежнасць, нацыянальная культура... Адны казалі, што беларусы не нацыянальнасць -- гэта абмаскаленыя палякі ці апалячаныя маскалі. Другія сцвярджалі, што жаданне, воля самога народа мець сваю дзяржаву (і ён яе павінен мець) ужо ёсць акрэсленая нацыянальнасць. Каб нас лічылі нацыянальнасцю, мы павінны развіваць у народзе волю, жаданне быць вольнымі. Трэція даказвалі, што трэба ісці ў народ, што толькі паветра ўласнай хаты дасць нам магчымасць развівацца духоўна, толькі на ўласнай зямлі дрэва беларускай культуры пусціць ва ўсе бакі свае магутныя галіны. І менавіта сябе пражскія студэнты, якія далучыліся да еўрапейскай культуры, лічылі першымі ластаўкамі, што панясуць культуру ў родныя хаты. Чацвёртыя даводзілі, што толькі свядомая жанчына выхавае свядомага беларуса, што толькі з малаком маці ўвальецца ў кроў свядомасць тых, хто пойдзе за шматпакутную Беларусь, і ніякай агітацыяй мы не можам дабіцца таго, чаго можа дабіцца свядомая беларуска ў сям'і, не даб'ёмся тых уплываў, якія яна можа зрабіць на мужчыну. Будзе ў нас свядомая жанчына -- будзе й беларускі рух... А патрыцый Ян Загорскі, які не прызнаваў ніякай Беларусі, хоць і ўдзельнічаў у беларускім руху, спакойна рэагуючы на ўсе гэтыя гарачыя спрэчкі, заўважаў: "Рана ці позна вы ўсе прыйдзеце да вышэйшай расійскай культуры...", на што яму дружна адказвалі: "Мы, беларускія студэнты, стаім на платформе незалежнасці Бацькаўшчыны". Незалежнасць -- але якая? Прымусіць усіх гаварыць па-беларуску ці змяніць сацыяльны лад?... Як усё гэта знаёма нам сёння і як дакладна аўтар змог перадаць дух той эпохі, максімальна наблізіўшы яе да нашых дзён, нашых ідэйных спрэчак пра адны і тыя ж балючыя праблемы беларусаў: нацыянальнасць, незалежнасць, культура, мова, гісторыя, да якіх мы не наблізіліся, а аддаліліся яшчэ на 70 гадоў.

Але тут узнікае пытанне: як на ўсе гэтыя інтэлігенцкія разважанні "младабеларусаў" рэагуе непасрэдны прадстаўнік народа, выхадзец з самых нізоў Пётра Тугоўскі? "Беларуская Грамада ў Празе" палічыла, што яго чулая душа не павінна быць страчана для іх барацьбы за волю Бацькаўшчыны. Яму дапамаглі атрымаць стыпендыю, перасяліцца з халоднай садовай альтанкі ў інтэрнат, ён пачаў рэгулярна наведваць лекцыі, сходы "Грамады". Аднак, паслухаўшы бясконцыя размовы землякоў, ён яшчэ больш упэўніваецца ў сваёй даўняй тэорыі бессэнсоўнасці жыцця і вырашае пакончыць самагубствам. Для Тугоўскага самагубства стала ідэяй. За свой кароткі век ён, "паглядзеўшы жыццё ад пачатку да канца, пабачыў, што ўсё ў ім невыпадковае, што ад самага маленства да старасці чалавека вядзе нейкая сіла акрэсленымі дарогамі -- аднаго да шчасця, а другога да няшчасця. Сабраўшы, нарэшце, усе жыццёвыя факты, ён стварае тэорыю шчасця і няшчасця ў жыцці і бачыць, што тэорыя няшчасця пацвярджаецца, тады -- нашто яму жыць?"

*ПАМЯЦІ КРАЯЗНАЎЦА Данілы ВАСІЛЕЎСКАГА*

# "ПАСЫЛАЮ ВАМ КАРТАЧКУ..."

Але наогул мы нават крэўных сваіх не ўспаміналі, каб не кінуць цень -- мы ж былі пракажоныя... І страх жыў (пэўна, і жыве) у кожнай клетачцы.

Бацька мой -- першы грамацей у сялянскай сям'і вёскі Новае Сяло (Бешанковіцкага р-на?) на Віцебшчыне. Рана навучыўся пісаць-чытаць, гадоў у 6 пісаў усім у вёсцы пісьмы. Школа -- настаўніцкая семінарыя. Там ён вучыўся разам з Пчолкам (забыла падрабязней), лічыў тата яго сваім сябрам усё жыццё, але той яго баяўся і за язык (бацька гаварыў мала, але толькі тое, што думаў), і за тое, што пасадзілі. (Я сустракалася з Пчолкам, будучы маскоўскай студэнткай, каб або абрадаваць бацьку, або "вылечыць" ад сяброўства -- памяці -- болю. Атрымалася другое).

Тата быў інспектарам народных вучылішчаў у Віцебску. Потым дэкан геаграфічнага факультэта ў Магілёве. І усё -- зэк і буравік у Варкуце, тэхнік-геолаг Варкуцінскага ГРУ (геолагаразведвальнага ўпраўлення).

Чула, што "мецілі яго ў першыя беларускія акадэмікі", "у Мінск клікалі".

Велізарную, добрую ролю адыграла маці мая ў жыцці бацькі. Яна была моцная духам, надзейная. У нас была цудоўная сям'я".

Успомніла Ала Данілаўна ў сваім пісьме і сялянскія карані свайго пракаветнага беларускага роду, дзеда Міна Рыгоравіча, "які быў, падобна, харошая сялянская костка ("паплюе на далоні, зямлю панюхае, палец уверх падніме, падумае -- падумае -- сеяць пара! Або не пара")". "Дзякуй Богу, -- пісала мая карэспандэнтка, -- што дзед і бабуля не дажылі да таго дня, калі іх Данілу, які "любіў адно кніжкі і жонку, мухі не пакрыўдзіў" -- у зламыснікі запісалі".

У канверт Ала Данілаўна ўклала аўтэнтычны дакумент -- копію заявы Д.М. Васілеўскага (г. Варкута, пасёлак Руднік, вул. Прамысловая, 7) дырэктару Магілёўскага педінстытута ад жніўня 1956 года: працаваў у Вашым інстытуце з 1.VIII.1930 па 9.XII.1936 года ў якасці выкладчыка і дэкана геаграфічнага факультэта. 9 снежня 1936 года арыштаваны. 13 чэрвеня 1956 года цалкам рэабілітаваны. Згодна з тагачаснымі правіламі рэабілітацыі Даніла Мінавіч прасіў выслаць двухмесячны заробак.

Па ўсім відаць, Ала Данілаўна была рада магчымасці "выгаварыцца", расказаць пра бацьку, выканаць святы абавязак памяці. Ды і ўвогуле, як чалавек высокай культуры, яна глыбока разумела агульначалавечую праблему "сувязі часоў". Праз тры дні новае пісьмо:

"Успомнілася вось што. Ён, будучы "начальнікам" настаўніцтва на Віцебшчыне, многіх пісьменных людзей (манашак, напрыклад) прызначаў настаўнікамі. Гэта я чула ад тых, каму бацька памог у тыя гады: яны выжылі і дажылі наогул да глыбокай старасці. А ад яго чула, як, прыходзячы ўладкоўвацца на працу, жанчыны перадавалі спачатку прывітанне яго жонцы -- "мы разам вучыліся". Спярша бацька ўсё прымаў за чыстую манету, а калі зразумеў, дык стаў пытацца -- "якой жонцы?" Тыя імя яе нават не ведалі. Але, калі гэта былі пісьменныя людзі, дык ён усё адно ўладкоўваў іх настаўнікамі. Толькі ўжо з таго часу "прывітанні жонцы" спыніліся, а проста ішлі з просьбай, і ён рабіў, што мог, кожнаму. "Чарапкі" неслі мужыкі. Ён усё прымаў, што мела каштоўнасць археалагічную і што не мела ("чалавек жа стараўся, ішоў, нёс, спадзяваўся навуцы паслугаваць, як жа можна яго не абнадзеіць, не падзякаваць")..

Мама мая, з віцебскіх мяшчанаў, расла без бацькі (ён памёр, калі ёй было 2 гады). Баба Агаф'я -- яе маці -- старалася даць тром сваім дзецям (мама малодшая) адукацыю. Уладкавала маму ў Полацкае епархіяльнае (?) вучылішча пры манастыры (?), дзе ігуменняй была матухна Ніна -- дзівоснага лёсу і душы чалавек. Гэта яна -- матухна Ніна -- плаціла потым за маю маму і тым дала ёй адукацыю. Калі тата быў "ва ўладзе", яны з мамай шукалі матухну Ніну, каб падзякаваць ёй, падтрымаць. Матухна Ніна адказала кароткім пісьмом, што "рада -- не памылілася" ў маёй маме. Яны згубілі адна адну з вачэй, але памяць аб матухне Ніне ў нашай сям'і была святая. Аб ёй часта гаварылі ў Варкуце, куды мы ўсе прыехалі (мама, бабуля і я). Адсюль і паток да бацькі матчыных савучаніцаў і класных дам з "матчынага вучылішча", калі яго разагналі..."

І яшчэ, і яшчэ неацэнныя старонкі сямейнай памяці:

"Пазнаёміліся мае бацькі на працы. Інспектар грозны (чамусьці) прыехаў да вясковай настаўніцы з праверкай. А праз нейкі час пра гэтую настаўніцу і яна сама, і яе сям'я ў віцебскай газеце прачыталі... Усе зляканіся! А аўтар артыкула -- мой бацька -- на спатканне (на Юр'еву горку ў Віцебску) запрасіў, уручыў вершы: "... к тебе стремится мысль моя, ты вся моя отрада". Зрабіў прапанову. Ажаніўся. Пераехаў у дамок да цешчы. Не надта яны мілавалі адно аднаго -- бабка Агаф'я і бацька... Але ў ссылку за Мінычам без гуку, без слова паехала, нават ініцыятарам была -- "трэба ехаць да Мініча". Там, у Варкуце, яна і асталася. І ні разу не паскардзілася, што не ў роднай зямлі будзе, а яшчэ жартавала : "у вечнай мерзлаце святой стануся".

Вось Вам яшчэ штрыхі да партрэта майго бацькі.

Ён ахоўваў мяне, дзяўчынку-варкуцянку, ад залішняй інфармацыі, гаварыў: "ты ўсяго гэтага і так не забудзеш, не трэба забіваць галаву тым, што не ў сілах пакуль асэнсаваць". Я яму за гэта ўдзячная. І што нас баяўся браць у Варкуту -- публіка розная... Маці настаяла з падтрымкай бабулі -- і мы паехалі туды, як толькі бацьку вызвалілі ў 1945 годзе.

Ганаруся я сваімі бацькамі. І лёсу свайму ўдзячная -- сіратой не пакінуў. Запаветы бацькоўскія старалася выканаць: "ты павінна зрабіць тое, што я недарабіў". Рабіла, што было ў маіх сілах. Ён быў мною задаволены, хаця я сярэдні чалавек. І я вельмі радая, што імя яго на Беларусі не забытае. Пакінуў сваё маленькае святло, дзякуй Богу".

У наступным пісьме Ала Данілаўна зноў вярнулася да сямейнага падання пра полацкую асветніцу не такіх ужо далёкіх часоў (выходзіць, старажытныя асветныя традыцыі, распачатыя некалі прападобнай Ефрасінняй, не перапыняліся ў Полацку і пасля).

"Што ведаю пра яе -- матухну Ніну? З нейкай вельмі знатнай сям'і. Вельмі адукаваная. Каханне з дзяцінства да сына конюха (?). Бацькі не даюць згоды на шлюб, і яна ідзе ў манастыр. Ён таксама. Потым яны перапісваюцца, калі ён архірэй (здаецца), а яна ігумення. За крытычныя ў пісьмах меркаванні аб царызме абое караюцца. Але, пэўна, не вельмі моцна, раз матухна Ніна за час матчынай вучобы нікуды не адлучалася (толькі ў эвакуацыі ўсе былі ў 1914 годзе ў Растове Яраслаўскім...).

Адукацыю і выхаванне Полацкае вучылішча давала добрыя. Гэта было прызнана -- "фірма". Тата мой лічыў матухну Ніну вялікай асобай, хацелі запрасіць жыць у сям'і ў нас. Але яна знікла. А потым зніклі і мы.

Я буду радая, калі царква ўспомніць (або помніць) пра матухну Ніну, як помнілі аб ёй мае бацькі, калі ўзнаўляюць традыцыі культурныя. Часта святую Ефрасінню Полацкую бабка ўспаміналa..."

З новым пісьмом Ала Данілаўна прыслала некалькі лісткоў, спісаных бацькавай рукой:

"...тое, што ў мяне асталося ад "Мемарыялаў". Відаць яго хвароба (нават почырк мяняўся, абрывалася думка), але відаць і кола інтарэсаў.

Ёсць і пра "Тараса" словы. Пэўна, Вам будзе цікава.

**Генадзь КІСЯЛЁЎ.**

**Працяг. Пачатак у № 27.**





**НА З ДЫМКАХ: Д.ВАСІЛЕЎСКІ ў Варкуце. 1945 год; з дачкой Алай. 1947—1948 гады.**

---

Гэту яго тэорыю горача падтрымлівае "астральны чалавек" -- жыхар інтэрната, спірытыст, які ўвесь час ляжаў у ложку пад коўдрамі, але ніхто не здагадваўся, што ў яго апошняя стадыя сухотаў. Ён палічыў Тугоўскага за геніяльнага чалавека, бо той сваім дзіўным сэрцам і халодным розумам знайшоў вялікі закон жыцця: заканамернасць чалавечага існавання. Аднак такая пасіўная жыццёвая пазіцыя выклікае водпаведзь "айца" Кірылы, які думаў, што Тугоўскі, маючы моцную, дзедаўскую працоўную аснову, гатоў чапляцца за жыццё, нягледзячы на мукі і болі, уліцца ў беларускую грамаду без усялякіх "інтэлігенцкіх" хваробаў. Уговорваючы Тугоўскага пакінуць сяброўства з "астральным чалавекам", "айцец" Кірыл даказваў, што няма ніякіх уплываў Сатурна, што чалавек сам каваль свайго шчасця. Галена Вярхоўская таксама лічыла, што нельга плыць па цячэнні, бо, як сказана ў М. Багдановіча, "проціў цячэння можа толькі жывое паплыць". На гэта Тугоўкі адказаў, што ў паэта жыццё таксама было нешчаслівае, відаць, і ён нарадзіўся пад Сатурнам. Аднак і Вярхоўская, і "айцец" Кірыл быццам перакапалі Тугоўскага: ён не скончыў жыцця самагубствам, але сваёй "Споведзі самагубцы" не спаліў, схаваў далёка. Усё ж тэорыя "роджаных пад Сатурнам" глыбока ўвайшла ў яго псіхіку, стала яго светапоглядам: ён вырашыў праверыць гэту тэорыю практыкай на ўласным жыцці.

Далей пісьменнік паказвае свайго героя ў студэнцкім асяроддзі, і тут яго найбольш цікавяць думкі, перажыванні, бясконцыя ваганні, супярэчнасці, ад якіх пакутуе ўся Пётрава істота. Аўтар, ідучы за ўнутранымі зрухамі яго душы, быццам прымаючы погляды Тугоўскага, дае характарыстыку людзей, роджаных пад Сатурнам: яны "не выносяць падуладнасці, не пужаюцца думкі аб сабе грамады, але баяцца быць смешнымі; недаверлівыя, працавітыя, любяць земляробства і навукі, не любяць вайны і жаўнераў, цікаўныя да ўсяго і разам з тым сумныя. Меланхолія заўсёды кладзе на іх твар сваю пячатку. Нічым не задаволены, ні адна партыя не будзе ім па душы, ні адзін палітычны лад не задаволіць іх. Гэта вечна: усім незадаволеныя, усё крытыкуючць, рэвалюцыянеры па духу. Людзі такія доўга не жывуць.

І сапраўды, апынуўшыся ў самым цэнтры беларускага руху, Тугоўскі крытычна ставіцца да ўсіх яго ідэй, праграм, палітычных напрамкаў. Ён бачыць, што моладзь, нават тая, што выйшла з сялян, рабочых, вельмі хутка ператваралася ў беларускую буржуазію: больш гаворыць пра кар'еру, вечары, носіць фракі, ганяецца за арыстакратамі і прыгожымі дзяўчатамі. Нават "айцец" Кірыл пачаў сумнявацца, ці выйдзе з іх пражскага супольніцтва прарок, які павядзе Бацькаўшчыну да незалежнасці, лепшага жыцця. Тугоўскі задумваецца, а што такое ён сам у велізарнай чашы жыцця? Адзінокая пясчынка, адзінокі чалавек, які не знайшоў шчасця.

Вярхоўская, якую ён моцна пакахаў, быццам і сябравала з ім, але больш схільнай была да прыгожага і багатага Яна Загорскага. У яго ж нічога не засталося свайго: ні дому, ні жанчыны, і толькі калі ўспамінаецца Бацькаўшчына, жыццё яго зноў набывае сэнс; ён вырашае здабываць навуку, тым больш што і "астральны чалавек" перад смерцю заклікаў яго верыць, змагацца за жыццё, за універсітэцкі дыплом.

Тугоўскі -- сапраўдны, чысты, не разбэшчаны жыццём беларус страшэнна пакутаваў ад усведамлення, што маладыя, таленавітыя сыны Бацькаўшчыны, якія цягнуліся ў Празе да навукі, паміралі ад сухотаў.

Над многімі пытаннямі прымушае задумацца раман Віктара Вальтара. Пісьменнік жыў і пакутаваў усімі складанасцямі свайго часу. Галоўнай для яго, як і для ўсіх свядомых беларусаў, тады і цяпер была і застаецца праблема нацыянальнай незалежнасці. Таму ёй у творы і большая ўвага, што сведчыла пра імкненне аўтара разабрацца, усвядоміць, знайсці сапраўдныя шляхі для яе ажыццяўлення. Раман канчаецца на песімістычнай ноце, і гэта абумоўлена рэаліямі тых гадоў, калі ўрад БНР апынуўся ў эміграцыі і толькі там яшчэ можна было ўслых разважаць пра ідэі беларускасці. На Беларусь насоўвалася змрочная хмара сталінскіх рэпрэсій, падчас якіх вынішчаўся цвет нацыі, а незалежнасць Беларусі нават не праглядвалася за далёкім гарызонтам. І ўсё ж народ жыў, сеяў жыта, размаўляў на роднай мове, хоць яго ўсімі сродкамі імкнуліся адвучыць ад яе. Жылі і героі рамана "Роджаныя па Сатурнам". І не толькі палітыкай. Іх, маладых, захапляла вясна, каханне... Былі спрэчкі, сумненні, туга па радзіме, дзеля якой яны ахвяравалі сваімі юнацкімі жыццямі, навечна ўваходзячы ў яе гісторыю, навечна застаючыся ў памяці ўдзячных нашчадкаў.

Нельга не адзначыць і своеасаблівую мову рамана. Ён напісаны той мовай, якая гучала на першапачатковым этапе беларускага Адраджэння. Ёсць у ёй паланізмы, рускія звароты, яна набліжана больш да размоўнай беларускай стыхіі, чым да дыстыляванай літаратурнай мовы. І ў гэтым значнасць і адметнасць моўнага каларыту эпохі.

Сёння мы можам парадавацца, што ў сучасны літаратурны працэс вяртаецца з небыцця цікавы, змястоўны твор таленавітага беларускага пісьменніка.

**Лідзія САВІК,**
**сакратар Рады**
**Згуртавання беларусаў свету**
**"Бацькаўшчына".**

# БАГАТАЯ СПАДЧЫНА АЛЬБЕРТА ІПЕЛЯ

Цыкл экспазіцый, звернутых да гісторыі мінулых стагоддзяў, у Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі прадоўжыла выстаўка "Мастацтва Беларусі XVI--XIX стагоддзяў. Знаходкі Альберта Іпеля". Яна прымеркавана да 110-й гадавіны з дня нараджэння нямецкага даследчыка.

Сярод экспанатаў выстаўкі -- старажытныя іконы, скульптуры, фрагменты разьбы, знойдзеныя вучоным. Акрамя таго, увазе наведвальнікаў прадстаўлены і некаторыя з сабраных, вывучаных і апублікаваных ім сярэдневяковых беларускіх твораў пісьменства.

Асноўную цікавасць для Альберта Іпеля мела мастацтва антычнасці і Усходу. Аднак нямала ўвагі ён удзяляў і вывучэнню беларускай культуры. У 1918 годзе даследчык арганізаваў выстаўку мастацтва старажытнасці, якая экспанавалася ў Вільнюсе і Мінску. У каталогу гэтай выстаўкі творы мясцовых майстроў упершыню былі адзначаны як работы беларускай школы. Акрамя гэтага, Альберт Іпель быў першым вучоным, які выявіў і вывучыў самыя старажытныя кантакты беларусаў з Германіяй.

*СТАРОНКІ "ВІЦЕБСКАГА АЛЬБОМА"*







# МАСТАЦКІ МУЗЕЙ

У 1883 годзе на Саборнай плошчы ў Віцебску (зараз пл. Свабоды), каля ратушы і былога езуіцкага касцёла, быў узведзены манументальны будынак Акруговага суда. Аўтарамі праекта з'яўляліся архітэктар міністэрства юстыцыі І. Камінскі і інжынер М. Карчэўскі. Прэзентатыўны П-падобны ў плане будынак дапаўняўся бакавымі крыламі неаднолькавай даўжыні. Вялікае мастацкае значэнне меў ганак перад цэнтральным уваходам, выканаены ў тэхніцы металічнага ліцця. Шырокая літая металічная лесвіца ўпрыгожыла і інтэр'еры пабудовы. Спалучэнне элементаў неакласіцызму і мадэрна ў архітэктурна-пластычным вырашэнні будынка дазволіла аднесці яго да ліку найбольш цікавых помнікаў дойлідства Віцебска канца мінулага стагоддзя.

У 1920-х гадах у будынку размяшчаўся Палац працы і губернскі савет прафсаюзаў, пазней -- абласны камітэт Кампартыі Беларусі. І толькі тры гады назад ён быў перададзены Віцебскаму мастацкаму музею.

Мастацкая калекцыя музея пачала фарміравацца яшчэ ў 1920-я гады. Аднак за часы рэпрэсій, вайнаў і валюнтарысцкіх падыходаў да культуры яна неаднаразова аказвалася парушанай, і многія экспанаты яе зараз рассеяны па свеце. Віцебскі мастацкі музей пакуль яшчэ не мае стацыянарнай экспазіцыі, таму адна з асноўных форм яго дзейнасці зараз -- арганізацыя выстаў. Звычайна ў сценах музея экспануецца адначасова некалькі выстаў, якія прэзентуюць беларускае і сусветнае мастацтва.

Заўсёдную цікавасць наведвальнікаў выклікае выстава твораў Юрыя Пэна -- першага настаўніка сусветна вядомага мастака Марка Шагала. Рэалістычныя партрэты, пейзажы ды жанравыя сцэнкі, адлюстраваныя на палотнах Пэна, прывабліваюць асаблівай задушэўнасцю і любоўю аўтара да натуры. Віцебскі мастацкі музей з'яўляецца ўладальнікам каля 200 прац мастака, частка з якіх экспанавалася ўжо па-за межамі Беларусі.

У канцы чэрвеня ў музеі адкрылася выстава мастачкі са Швейцарыі Сюзаны Бауман. За доўгія дзесяцігоддзі гэта першая непасрэдная сустрэча віцебскага гледача з мастацкай культурай адной з самых цывілізаваных еўрапейскіх краін. Постмадэрнісцкія калажы Сюзаны Бауман уражваюць нечаканай фактурай прац, якія ствараюцца на пэўным выходным матэрыяле: выкрайках, аркушах анатамічнага атласа, старадаўніх гравюрах і г.д. Як адзначалася на прэс-канферэнцыі, арганізаванай у музеі перад адкрыццём выставы, візіт швейцарскай мастачкі на Беларусь можа стаць зыходным пунктам у наладжванні культурнага супрацоўніцтва паміж краінамі, што маюць адна да адной узаемную цікавасць.

Продкі маскоўскай мастачкі Любові Жухавічар паходзяць з Беларусі, з горада Оршы. У мінулым годзе яна была ўдзельніцай 1-га Міжнароднага Шагалаўскага пленэру, які праходзіў у Віцебску. Тады ж мастачка адзначыла асаблівую атмасферу і мастацкі патэнцыял горада, выказала жаданне наладзіць у Віцебску асобную выставу. І вось сёлета сем маскоўскіх мастакоў групы "Куст", у якую ўваходзіць Л. Жухавічар, прывезлі свае працы ў горад над Дзвіной. Адкрыццё выставы адбылося падчас святкавання Шагалаўскіх дзён -- асаблівай пары года ў Віцебску, якая заўсёды прыцягвае да сябе шматлікіх знаўцаў і прыхільнікаў творчасці вялікага віцябляніна. Пры ўсёй рознасці творчых індывідуальнасцяў мастакоў групы "Куст" іх графічныя лісты і жывапісныя палотны яднаюць глыбінныя, нябачныя сувязі. "Літасць -- увогуле ключавое тут паняцце: літасць да нявечнага свету, да тленнага чалавека, нават да паперы, якая рвецца. Свайго роду эстэтыка беднасці, аднак у гэтай эстэтыцы наканаванае да знікнення адлюстроўваецца буйным планам", -- напісала пра мастакоў групы мастацтвазнаўца Галіна Яльшэўская.

Мастацкі музей у Віцебску існуе ўжо трэці год, і яго дзверы заўсёды гасцінна расчынены для наведвальнікаў і ўсіх, чые памкненні скіраваны на шчырае і сур'ёзнае супрацоўніцтва.

**Людміла ХМЯЛЬНІЦКАЯ.**



**НА ЗДЫМКАХ: будынак Віцебскага мастацкага музея; на выставе Юрыя ПЭНА; Любоў ЖУХАВІЧАР (Масква). "Прыцемкі". 1994 год; Сюзанна БАЎМАН (Швейцарыя). "Змрок". 1989/1990 гады.**

# КАЛІ Б ВЕДАЛІ РОДНУЮ МОВУ— НЕ БЫЛІ Б БІТЫМІ

Успомнім, як напрыканцы сакавіка бягучага года балгарская паліцыя пабіла, а ў прыдачу яшчэ і абрабавала беларускіх хакеістаў. Спалохаліся тады і дыпламаты, і журналісты: "Як? За што? Чаму?" Але і па сённяшні дзень, здаецца, ніхто толкам не адказаў на гэтыя пытанні.

Зусім выпадкова мне давялося нядаўна сустрэцца з двума маладымі балгарскімі хлопцамі ў звычайнай мінскай піўнушцы за адным сталом. Пачуўшы балгарскую мову (а яе я магу свабодна адрозніць ад любой славянскай мовы -- калісьці жыў у Адэскай вобласці, здымаў халасцяцкую кватэру на працягу трох гадоў у балгарскай сям'і), вядома, пацікавіўся, чым жа быў выкліканы гэты інцыдэнт.

Хлопцы спачатку збянтэжыліся. Але тут падышла афіцыянтка і спытала мяне (дзіўная справа -- па-беларуску), што я буду заказваць. Я таксама адказаў ёй на роднай мове. Балгары ўмомант ажывіліся. Удакладніўшы на ўсякі выпадак маю нацыянальнасць, яны сумленна расказалі ўсё, што ведалі.

Прыкрая памылка выйшла. Здарылася так, што менавіта ў гэты вечар група рускіх хлопцаў, знаходзячыся ў моцным падпітку, рабіла, як гавораць юрысты, хуліганскія дзеянні. І весяліліся яны непадалёк ад той гасцініцы, дзе жылі нашы хакеісты. Паліцэйскія спрабавалі па-добраму ўгаварыць хуліганаў -- не атрымалася. Калі яны вырашылі ўзяць самага нахабнага, каб адвесці ў паліцэйскі ўчастак, дык атрымалі магутны адпор.

Паліцэйскія па рацыі выклікалі падмогу, і ўсе кінуліся на пошукі злачынцаў. Так яны наткнуліся на беларускіх хакеістаў, якія святкавалі перамогу. Аднаму з пабітых паліцэйскіх падалося, што ён пазнаў крыўдзіцеля. Тут усё і пачалося...

-- Калі б вашы хлопцы размаўлялі па-беларуску, -- пераканана заўважыў адзін з маіх субяседнікаў, -- ніхто іх і пальцам не крануў бы. А так...

Вось і ўсё тлумачэнне гэтай загадкавай з'явы. Цяпер зразумела, чаму засталіся тайнай не матывы: на дыпламатычным узроўні такое прызнанне для шырокіх мас немагчымае.

**Валянцін ІЎЧАНКАЎ.**

## ГАСТРОЛІ "НЕРУША"

У Нарвегіі паспяхова прайшлі выступленні фальклорна-этнаграфічнага ансамбля Белдзяржуніверсітэта "Неруш". Але не паспелі самадзейныя артысты прыехаць дадому, як зноў збіраюцца ў дарогу -- на гэты раз у Егіпет. Завершыць жа гастрольны семестр ансамбль паездкай у Германію на традыцыйны фестываль "Еўрапейскія музычныя сустрэчы". Дарэчы, "Неруш" прымае ў ім удзел другі раз. Упершыню ён выступіў на фестывалі ў 1989 годзе. Сустрэчы са старымі і новымі сябрамі чакаюць беларускіх артыстаў.

## "ГУДЫ" БЫЛІ ЎСЮДЫ

Вядомы на Гродзеншчыне фальклорны гурт "Гуды" нядаўна вярнуўся дадому з польскага горада Цэханўў, дзе прыняў удзел у традыцыйным фальклорным фестывалі, прычым, чацвёрты раз запар.

Акрамя самадзейных беларускіх артыстаў, у Польшчы на фестываль "Купальская ноч-95" сабраліся калектывы з Румыніі, Турцыі, Нарвегіі і Карэліі. Польскім гледачам спадабалася майстэрства іх суседзяў, таму менавіта "Гуды" атрымалі ганаровы Кубак ад Цэханўскага ваяводства. А ў хуткім часе "Гудаў" чакае шлях у Германію, дзе яны з візітам у адказ наведаюць сваіх нямецкіх сяброў.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



**НАШ АДРАС:**

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны,77). Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 2724. Падпісана да друку 24.7.1995 г.